# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА--МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

# BELARUSIAN THOUGHT

THE BELARUSIAN OUTLOOK ON
SOCIETY, POLITICS, LITERATURE & ARTS

No 50
2002

НЬЮ ЁРК САЎТ РЫВЭР

# "Беларускі Фэстываль — 2002"

У суботу 15 чэрвеня адбыўся ў царкоўным парку і залі Грамадзкага Цэнтру чацьвёрты "Беларускі Фэстывль" ладжаны парахвіяй імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, Н.Дж. Ня гледзячы на нецікавы пагодні пагроз усё-ж Фэстываль быў многалюдным. Прысутнічаў мэр гораду Робэрт Шэгэті і старшыня гарадское рады сп. Дэйвід Слікер, а. Архімандрыт Грэгоры О'Кіф — настаяцель царквы імя сьв. Кірылы Тураўскага, Рычмомд Гіл, Ню Ёрк, іподзіякан Язэп, дзіяканы: а. Майк і а. Увалі, а. Дэйвід — настаяцель суседняе царквы і а. Протопр. Сяргей Кухарскі. Айцец протопр. Саўрос Роўсос — настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай тры разы запрашаў гасьцей у царкву. Пазнаёміў з гісторыяй і жыцьцём парахвіі, з характэрнымі малітвамі, ды з наладжанай выставай царкоўнай, службовай утвары.



**Воля Казак — выступае на "Беларускім Фэстывалі — 2002" у Саўт Рывэры, Н.Дж.**

У царкву з пікніковых печаў даносіўся запах смажаных мясных страваў. У залі была вялікая фантавая латарэя, ды можна было пасілкавацца рознымі кухоннымі стравамі. На сцэне "Трыо Казакоў": Валя, Алесь і іх дачушка Волечка, захоплівалі прысутных сваімі беларускімі песьнямі і музыкай. Шчырая падзяка належыцца арганізатарам Фэстывалю, ахвярадаўцам фантаў і ўсім тым, хто сваім удзелям спрычыніўся да посьпеху Фэстывалю,Асаблівая падзяка належыцца сп-ні Соні Арцюшэнкаі яе супрацоўніцам.

---

**Ліст у Рэдакцыю:**

Шаноўны рэдактар Міхась Кавыль!

Просім праз часапіс "Беларуская думка" перадаць нашае шчырае дзякуй сябрам Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтра ў Саўт Рыверы на чале з старшынёй Юркам Навумчыкам за дасланыя ў Беларусь і перададзеныя праз нашага даўняга прыяцеля Яўгена Лецку падарункі для дзетак, што выхоўваюцца ў беларускіх групах нашага садка. Уручэньне цацак маленькім выхаванцам, аздобленае іх тэатралізаванымі выступленьнямі з песьнямі і танцамі, сталася сапраўдным сьвятам.

Нас вельмі кранае, што суродзічы, якія жывуць далёка за акіянам, захавалі ў сваіх душах сьветлыя успаміны і пачуцьці да роднай Бацькаўшчыны-Беларусі, веру ў яе будучыню, у тое, што народ наш, пазбавіўшыся цяжкіх бедаў, урэшце духоўна акрыяе і

*(Працяг на 53 бачыне)*

// БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСАПІС

BELARUSIAN THOUGHT
THE BELARUSIAN OUTLOOK
ON SOCIETY, POLITICS, LITERATURE AND ARTS

Год выд. 42 2002 No 50

Страшны дзень 11 верасьня 2001 году. Вар'яты-самазабойцы ў захопленых самалётах урэзаліся ў два небаскробы Сусьветнага Гандлёвага Цэнтру і ў будынак Пэнтагону, забілі звыш 3 000 людзей.









# АДПЛАТА

Папа Рымскі благаславіў Буша на "крыжовы паход"





"Крыжовы паход" пачаўся 8-га кастрычніка 2001 году.

## Дордж Буш: "Я прыцягнуў усе рэсурсы, каб знайсьці і пакараць вінаватых."



Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш выступіў з прамовай да амэрыканскага народу. Яго выступленьне па нацыянальным тэлебачаньні было надзвычай эмацыянальнае, але адначасова поўнае рашучасьці. У гэты момант прэзыдэнт ЗША, відавочна, гаварыў і адчуваў тое, што адчувалі мільёны амэрыканцаў.

Джорж Буш: *"Тысячы людзей загінулі ў выніку неспалзяваных, злачынных і ганебных актаў тэрору. Карціны самалютаў, якія ўрэзваюцца ў будынкі, пажары, абвал вялікіх пабудоваў спарадзілі сярод нас недаўменьне, страшэнны жаль і абурэньне, якое немагчыма стрымаць. Гэтыя акты масавага забойства былі накіраваныя на тое, каб запалохаць наш народ, каб выклікаць хаос і прымусіць нас адступіць. Але тэрарысты памыліліся. Наша краіна моцная. Вялікі народ паўстаў на абарону вялікай краіны. Тэракты могуць ускалыхнуць падмуркі нашых высокіх будынкаў, але яны не ў стане пахіснуць стальную рашучасьць амэрыканцаў."*

Джордж Буш паведаміў, што ўсе ўстановы фэдэральнага ўраду цэлкам адновяць сваю працу. Ён таксама запэўніў, што Злучаныя Штаты зробяць усё магчымае, каб знайсьці і пакараць адказных за гэтыя тэракты: *"Працягваецца пошук тых, хто стаіць за гэтымі злачыннымі актамі. Я накіраваў усе разьведвальныя і праваабарончыя рэсурсы, каб знайсьці вінаватых і прыцягнуць іх да адказнасьці. Мы ня будзем рабіць розьніцы паміж тэрарыстамі, ўцягнутымі ў гэтыя замахі, як і тымі, хто даваў ім прытулак."*

Дарэчы, дагэтуль ніхто ня ўзяў на сябе адказнасьць за тэракты. Таксама Злучаныя Штаты публічна не назвалі нікога, каго-б яны падазравалі ў замахах. Амэрыканскія ўзброеныя сілы прыведзены ў стан павышанай боегатоўнасьці. Узмоцнены таксама сродкі бясьпекі вакол усіх амэрыканскіх пасольстваў і прадстаўніцтваў Злучаных штатаў Амэрыкі па ўсім сьвеце.

**Радыё "Свабода"**

---

**Чытайце і пашырайце беларускі друк!**

## "Дабро пераможа..."

Выступаючы пасьля нарады Савета нацыянальнай бясьпечнасьці, прэзыдэнт Буш сказаў:

*"Учарашнія жудасныя і зламысныя дзеяньні супраць нашае краіны — нешта большае, чым простыя тэрарыстычныя акты: Гэта — ваенныя дзеяньні. У адказ нашы дзеяньні патрэбуюць ад нас адзінства і рашучасьці. Пад ударам знаходзіцца свабода і дэмакратыя.*

*Амэрыканцы павінны ўсьведамляць, што мы маем справу з такім ворагам, зь якім раней не сутыкаліся. Гэты вораг таіцца ў засадзе і ні ў вашто ня ставіць чалавечае жыцьцё.*

*Гэты вораг нападае на нявінных людзей, на грамадянскіх асобаў, занятых сваёй прафэсыйнай справай і таму не чакаючы нападу. Ажыцьцявіўшы вылазку, ён хаваецца, але ён ня можа хавацца назаўсёды. Дарэмна вораг мяркуе, што ў яго ёсьць надзейныя сховішчы. Яны не заўсёды будуць надзейнымі.*

*Гэты вораг напаў ня толькі на амэрыканцаў, але і на ўсе свабодалюбыя народы на зямлі.*

*Злучаныя Штаты кінуць усе сілы на вайну з гэтым ворагам. Мы аб'яднаем у гэтай барацьбе увесь сьвет. Мы праявім патрэбнае цярпеньне, стойкасьць і рашучасьць — і мы расчытаем адказны ўдар.*

*Вайна запатрабуе часу і цьвёрдасьці, аднак у адным нясумневайцеся — мы пераможам.*

*Фэдэральны ўрад і ўсе нашы службы ня трацяць часу дарэмна. Яны працуюць у абставінах надзвычайнага становішча. Амэрыка стаіць на месьце. Мы ні на хвіліны ня выпускаем із гледзішча, якая бяда пагражае нашай краіне.*

*Прадстаўнікі ўлады павінны прыняць усе неабходныя меры абароны нашых грамадзянаў. Але мы не дазволім ворагу трыумфаваць, ня зьменім нашага ладу жыцьця, ня пойдзем на агранічэньне нашых свабодаў.*

*Сягоньня я зьвяртаюся да Кангрэсу з запросам аб экстранным фінансаваньні выканаўчай улады — з тым, каб мы ня былі агранічаны ў сродках ні пры аказаньні дапамогі ахвярам у Ню Ёрку і Вашынгтоне, ні пры ажыцьцяўленьні мераў бясьпечнасьці.*

*Я дзякую кангрэсманам за праяўленую імі еднасьць і падтрымку! Амэрыка адзіная ў сваіх адносінах да таго, што адбылося. Свабодалюбыя народы планэты падтрымліваюць нас. Прадстаіць грандыёзная барацьба дабра са злом, у каторай дабро пераможа."*

---

## "Свабоду Беларусі!"

У дакладзе амэрыканскага Дзяржаўнага Дэпартамэнту сытуацыі ў Беларусі прысьвечан рэкордна вялікі па аб'ёму разьдзел — 50 бачынаў.

2000-ны год стаў адным із самых напружаных у працы праваахоўных арганізацый і апазыцыйных рэжыму Лукашэнкі партый. Дзяржэпартамэнт ужо болш не прызнае Аляксандра Лукашэнку легітымна выбраным прэзыдэнтам. Паўнамоцтвы Лукашэнкі прадоўжаны Канстытуцыяй 1996-га году, каторая, як лічаць на Захадзе, нарушае аснаўныя нормы дэмакратыі.

У верасьні гэтага году ў Беларусі запланаваны новыя прэзыдэнцкія выбары. Галоўны кандыдат, вядома, Аляксандр Лукашэнка. Дэмакратычная апазыцыя яшчэ ня выставіла свайго адзінага кандыдата. Хаця ўжо сёньня назіральнікі адзначаюць, што, калі сытуацыя ў бліжэйшы час ня зьменіцца, прэзыдэнцкія выбары стануць звычайнай гульнёй рэжыму.

Напярэдадні чарговага этапа палітычнай кампаніі беларуская дыяспара ва ўсіх краінах сьвету распачала сваю дзейнасьць. Пачаўся сэзон беларускіх дэманстрацый у Ню Ёрку. Традыцыйнае места —

перакрыжаваньне насупраць будынку Арганізацыі Аб'еднаных Нацый.

Першая дэманстрацыя беларусаў у гэтым годзе прысьвечана гадавіне дэпартацыі сталінскім рэжымам чэчэнцаў у лютым 1944-м годзе. *"Падобная доля можа чакаць і беларускі народ, калі ён сам сябе не абароніць".* — папярэдзіў лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. *—Падтрымаа расейскаю ўладаю рэжыма Лукашэнка прывяла да татальнага нарушэньня правоў чалавека ў Беларусі."*

Калі сьвет не заўважыць праблемы нашай краіны, заяўляюць беларускія палітычныя эмігранты ў Нью Ёрку, дык Беларусь ператворыцца ў своеасаблівую Чэчню.

**"Свабоду Беларусі!"**

*Галіна Прыгара.*

"Новое русское слово" Нр. ад 1.3. 2001 г.

************************************************************

## Адкрыты ліст

### дапаможніку прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь С.А. Пасахаву.

Паважаны Сяргей Аляксеявіч!

Зьвярнуцца да Вас мяне прымусілі шматлікія пытаньні і абурэньні настаўнікаў — прафсаюзных актывістаў, якія ведаюць Вас па Гродно. Я таксама ведаю Вас з пачатку 80-х гадоў як сябру па партыйнай ідэалагічнай працы. У той час я працавала ў аддзеле прапаганды ГК КПБ, а Вы — несьлі службу ў арміі на пасадзе намесьніка начальніка палітаддзела. Пазьней, у 1994 годзе, я спаткалася з Вамі, палітработнікам у адстаўцы, ў ролі даверанай асобы будучага прэзыдэнта краіны А.Р.Лукашэнка. Давайце ўспомнім, як гэта было... Вам, арганізатару спатканьняў "апальнага" тады А.Р.Лукашэнка з выбаршчыкамі, органы мясцовай улады ўсяк стараліся перашкодзіць, забясьпечваючы "перамогу" Ф.Кебічу. Вы раз па разу зьвярталіся тады за падтрымкай да прафсаюзаў, у прыватнасьці, да нашага гарадзкога камітэту працаўнікоў асьветы і навукі. Я, тады яшчэ пачынаючы старшыня гаркому прафсаюза, рабіла ўсё, каб настаўнікі змаглі спаткацца з усімі кандыдатамі на пост галавы дзяржавы.

Калі назначанае спатканьне настаўніцкага прафсаюзнага актыву г. Гродно з А.Р.Лукашэнкам у памешканьні абласнога інстытуту павышэньня кваліфікацыі выявілася немагчымым (па прычыне адключэньня там вады і сьвятла), мы экстранна перанесьлі яе ў залю Савета прафсаюзаў.

У той дзень Вас і А.Р.Лукашэнку зь яго аховай давялося прымаць мне з тадышнім старшынёй АК прафсаюзу В.С.Ткачыкам. Менавіта тады, перад выхадам у залю да настаўнікаў, Вы і Аляксандар Рыгоравіч далі мне, баязьліваму прафсаюзнаму працаўніку, лекцыю, якімі належыць быць прафсаюзам і іх лідарам. Цытую Вас па сваёй запіснай кніжцы:*"Прафсаюз і іх лідэры ня маюць права быць кішэннымі, яны павінны быць здаровай, канструктыўнай апазыцыяй дзяржаўным органам улады. Вы рэпрэзантуеце інтарэсы трудавога народу і павінны біцца за іх, патрабуючы пераменаў да лепшага. У гэтым ваш абавязак і законадаўчае права. Хто, калі ня вы, зьменіць прагніўшы сацыяльна-эканамічны курс краіны!*

Спатканьне прайшло добра. Вы вялі яго натхнённа, разам з А.Р.Лукашэнка дзякавалі і хвалілі наш галіновы прафсаюз за актыўную жыцьцёвую пазыцыю, за грамадзянскую мужнасьць і патрыятызм.

Прайшло 7 гадоў. І сёньня, аналізуючы працэс, што адбываецца ў краіне, даводзіцца з горыччу канстатаваць, што Вамі, Сяргей Аляксеявіч, усё пастаўлена "з ног да галавы". Тое, што ў 1994 годзе Вы лічылі абавязкам і правам прафсаюзаў, зараз Вамі-ж называецца антыдзяржаўнай дзейнасьцю, "палітчным шоў" і г.д. Вы, зьяўляючыся дапаможнікам прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь па сувязях з грамадзкімі арганізацыямі, сталі галоўным дырыжорам палітыкі задушэньня прафсаюзаў толькі за тое,

што яны, хоць яшчэ нясьмела, але спрабуюць стаць такімі, якімі Вы іх бачылі ў 1994 годзе. Нашы прафсаюзы, рэфармiруючыся, становяцца ўсё больш уплывовай сілай у грамадзтве, зь якой неабходна лічыцца і супрацоўнічаць. У аўтарытэтнасьці прафсаюзаў і ФПБ я ў чарговы раз пераканалася, калі пабыла сярод удзельнікаў мітынгу — менскіх рабочых на пляцу Бангалор 14 лютага т.г. Там-жа я пачула вельмі няпремныя характарыстыкі асабіста ў Ваш адрас, Сяргей Аляксеявіч.

Мне вельмі сорамна перад маімі сябрамі-настаўнікамі, профактывістамі за Вас і за тое, што творыцца ў нашай краіне ў адносінах да прафсаюзаў.

Вы аб'явілі вайну прафсаюзам, забыўшы пра тое, што гэта — вайна з собскім народам. Гэта Вашымі словамі гаворыць прэзыдэнт краіны, а за ім розныя зімоўскія ў дзяржаўных СМІ" абражальныя цытаты ў адрас прафсаюзаў і іх лідараў. З Вашага "благаславеньня" накладзена забарона на выхад у дзяржаўныя "СМІ" прафсаюзам, і людзі могуць даведацца пра малую толіку праўды толькі праз незалежную прэсу. Гэта па Вашаму вызначэньню прадстаўнікі мясцовай вертыкалі "выкручваюць рукі" прафлідарам, каб тыя адмяжаваліся ад ФПБ, вышлі із яе, за што абяцаюць канструктыўную працу з нізавымі прафзьвеньнямі. Па Вашай-жа указцы ворганы мясцовай улады і кіраўніцтва піхаюць кіраўнікоў прадпрыёмстваў і ўстаноў на парушэньне законадаўства аб прафсаюзах, настройваюць на канфрантацыю з прафсаюзамі.

У тым, што ўсе дрэнныя справы ў адносінах да прафсаюзаў — справа Вашых рук, мы пераканаліся, прачытаўшы Вашае інтэрвю Інтэрфаксу, апублікаванае ў газэтах, у тым ліку нават у нашай абласной "Гродненской правде".Сваімі дзеяньнямі Вы наносіце непапраўную шкоду дзяржаве. Вы зганьбілі прэзыдэнта і кіраўніцтва краіны ў вачах сяброў прафсаюзаў, усіх нашых грамадзян. Вы зганьбілі нашу Беларусь у вачох міжнароднай грамадзкасьці. якая прымушана выступаць у нашую абарону ў нашым уласным доме. Апаметайцеся і спынецеся, Сяргей Алексеявіч! Пры чарговым выйсьці ў эфір успомніце, каліласка, і працытуйце самога сябе пра адносіны да прафсаюзаў у 1994 годзе. І спынеце струмень ачарненьня прафсаюзаў СМІ. Уважайце і не замахвайцеся на Канстытуцыю і дзейнічаючае законадаўства аб прафсаюзах.

Магчыма, гэта верне Вам паважаньне грамадзянаў краіны, сяброў Беларускіх прафсаюзаў.

***Данута Макей,***
***старшына Гродненскага ГК прафсаюза працаўнікоў асьветы і навукі, сябра ЦК галіновага прафсаюза, сябра ФПБ.***

*************************************************************************

# "Крумкачы" на кабыляцкай гары

**(Беларускі галакост)**

*"Паважаныя таварышы!.. Зьвяртаецца да вас ваш зямляк, ураджэнец Ушацкага раёна на Віцебшчыне. Вырас я ў вёсцы Навасельле, прыкладна за 35 кіламэтраў ад Лепеля.*

*У 1937 годзе, ў лістападзе, у гэтай вёсцы быў арыштаваны мой бацька — калгасьнік, — які працаваў заатэхнікам. Разам зь ім быў арыштаваны і яго брат, каваль. Імя бацькі — Антон Пятровіч Багаткевіч, дядзькі — Апанас Пятровіч. Абодва былі рэабілітаваны ў 1959 годзе.*

*Пасьля доўгіх пошукаў я атрымаў дакладныя зьвесткі пра лёс бацькі і яго брата: за "шпіянаж на карысьць буржуазнай Польшчы" па прысуду "тройкі" яны былі растраляны 15 сьнежня ў Оршы. Значыцца , ў вашым горадзе былі свае Курапаты. Калі рэдакцыя мае хоць якія зьвесткі пра месца, дзе растрэльвалі і хавалі бязьвінных, або зробіць спробу гэтае месца ўстанавіць, вельмі прашу паведаміць мне пра гэта. Можа быць, у гэтым дапамогуць чытачы газэты, хаця наўрад ці застаўся хто са сьведкаў у жывых.*

*Але я ня страчваю надзеі, што з вашай дапамогай знайду месца пахаваньня родных і змагу яшчэ прыехаць пакланіцца праху бацькі. Трэба сьпяшацца, бо мне самому ўжо 58 год. Пра сябе паведамляю: юрыст па адукацыі, член КАСС з 1958 году. Часова жыву і працую ў Мангольскай Народнай Рэспубліцы."* **Віктар Басгаткевіч.**

Гэты ліст прыйшоў у рэдакцыю аршанскай газэты "Ленінскі прызыў" і быў зьмешчаны на яе старонках у канцы мінулага году (Нр.203 за 1989 г.)

Так, не адны курапацкія сосны жалобна шумяць над пакутніцкімі магіламі, ня толькі рэквіем магілёўскіх кар'ераў гучыць над Беларусьсю. Ёсьць і ў Оршы свае Курапаты. Ды хіба толькі ў Оршы? Нават па даваенных мерках Орша не належала да буйных гарадоў: на пачатак вайны тут жыло 65 тысяч чалавек. Аднак памыляецца Віктар Багаткевіч у адным — ёсьць яшчэ жывыя сьведкі, якія бачылі, ведаюць, помняць.

Лес Кабыляцкай гары, што ўзвышаецца над паўночнай ускраінай Оршы, карыстаецца ў мясцовых жыхароў нядобрай славай. Менавіта гэтае месца стала для Оршы тым, чым для Менска сталі Курапаты. Першая хваля тэрору, ўзьведзенага ў ранг дзяржаўнай палітыкі, пакінула на Кабыляцкіх узгорках свой першы крывавы ўраджай яшчэ ў самым пачатку трыццатых. Менавіта ў трытцатым годзе аршанская раённая газэта "Змычка" паведамляла пра выязныя сэсіі Вярхоўнага Суда ў Оршы. Абвінавачваньні па 69-м артыкуле крымінальнага кодэксу — эканамічная контррэвалюцыя, ці, прасьцей кажучы, шкодніцтва. Да гэтага прыклаліся пагромы "беларускага нацыянал-дэмакратызму" і разгортвньне татальнай калектывізацыі. Наступствы апошняй перакрылі па сваіх памерах першыя дзьве, разам узятыя. Каго-ж раскулаъвали? Паслухаем відавочцаў.
Марыя Карпаўна Ляховічжыхарка вёскі Лучыншчына, Барадоўскага сельства:

*— Жылі мы тады на сваім хутары, мелі 11 гэктараў зямлі, 2 кані, каровы, ну і сям'я значная — 11 душ. Побач быў хутар Дзям'яна Харкевіча. У яго было 20 гэктараў, 2 кані і трымаў ён пяць кароў. Дык ён жыў з гэтых кароў, бо бралі заўсёды ў яго тварог ды сьмятану. Таму і сеяў ён у асноўным канюшыну. Была ў яго і жнейка.*

*Раз прыйшоў ён да бацькі: "Можа, твае сыны памогуць скасіць канюшыну, палягла, каб яе, жнейка не бярэ". Браты пайшлі, скасілі. Ён за гэта потым бочку агуркоў даў.*

*І што ты думаеш — раскулачылі! Калі іх забралі, паглядзела я: Божа мой, Божа, кашуля ў яго жонкі залапленая-пералапленая. Дзе-ж тых кулакоў знайшлі ?*
Соф'я Харытонаўна Кандраценка, жыхарка вёскі Бабінічы, Панізоўскага сельсавета:

*— У нашай вёсцы тады раскулачвалі двух гаспадароў — Шавельчанку Лазара і Алесенку Якіма. У Алесенкі было 2 кані і 2 каровы, дык ён і спаў у суткі 3-4 гадзіны, а так усё юшыўся на гаспадарцы. А ў Шавельчанкі жыла дзяўчына, дачка яго сястры. Тая нарадзіла яе ў дзеўках. Гэта цяпер ніхто не зважае на гэта, а тады — ого! Сястра яго потым выйшла замуж, а дзяўчынку пакінула брату. Так яна ў яго і жыла. Дык яму гэта паставілі ў віну, сказалі, што ён трымае ў сябе парабачанку, і раскулачылі. А ён-жа быў бедны з бедных, у іх і елі не заўсёды досыту.*

Уладзімір Мікалаевіч Шкураценка, жыхар вёскі Міцькаўшчына, Андраеўшчынскага сельсавета:

*— Нарадзіўся я ў вёсцы Солаўе, тут непадалёка. Жыў у нас тады такі Каплун Васіль. Было ў яго 3 каровы, кабыла, белая, і меў ён малатарню, машыну такую. Яе яшчэ бацька купіў некалі.*

*У трыццатым годзе пачалі арганізоўваць калгас. Былі тут у нас да гэтага дзьве камуны, ў Міцькаўшчыне і Чарнякове — адны гультаі сабраліся. Бывала, паедзе хто на базар ці так куды павязуць, дык яны падпільнуюць ды адбяруць мяшок які збожжа, і так было. Таму асабліва ніхто ў калгас дужа ня*

*ішоў. Тады ноччу і забралі Каплуна як кулака, а ў яго ня то-6, ня то 7 дзяцей было.*

І гэта было паўсюдна. Такія мэтады калектывізацыі выклікалі натуральны пратэст у сялян, і тут у дзеяньне ўступала машына АГПУ. Яна патрабавала новых ахвяр, і іх знаходзілі. У Шкураценка:

*— У Солаўі і царква была. Дзячком быў Мамыка, а папа прозьвішча было Розаў. Забралі іх у 32-м годзе, а царкву скасавалі і крыжы зь яе паздымалі.*

*З трыццатага году я працаваў у камяніцы — гэта такі кар'ер быў пад Кабыляцкай гарой, здабывалі там пясок ды гравій. Дык у 33-м годзе адкапалі мы з пяску папа, відаць, ня так даўно растралялі яго тут. Зялёнае паліто на ім было, крыж. Што зрабілі? Укінулі ў вагон разам з пяском. Так і паехаў.*

*У 35-м годзе тут-жа, ў камяніцы, адкапаў растралянага Фёдар Канстанцінавіч Крузо, жыхар вёскі Пашны, Крапівенскага сельсавета. Па яго сьведчаньні, закапаны ён быў ня глыбока, на паўмэтра.*

Факт растрэлаў у гэтым месцы пад Кабыляцкай горкай у першай палове трыццатых падтвердзіў і жыхар Оршы Віктар Андрэевіч Баско:

*— Жылі тут мы тады на паўночнай ускраіне Оршы, шмат хто з жыхароў трымалі кароў і нават коні. Мы, падлеткі, ганялі жывёлу пасьвіць...*

*Памятаю, загналі мы аднойчы кароў пад Кабыляцкую гару. Там былі ў той час равы такія, парослыя хмызьняком. Якраз на гэтым месцы цяпер "чарамет" знаходзіцца.*

*Гляджу я, а зямля там уся пакапаная, як быццам-бы шукалі што. Тут раптам з каровамі пачало тварыцца нешта няладнае, яны як звар'яцелі: вочы наліліся крывёй, з пашчаў сьліна цячэ, равуць, зямлю капытамі і рагамі рыюць.*

*Тут да мяне дайшло, што тут закапаны растраляныя людзі ды, відаць, няглыбока, во каровы і пачулі сьвежую кроў. І больш на гэтае месца ніколі ўжо не ганялі. Тады я зразумеў, што за страляніна чулася вечарамі з гэтых мясьцін...*

Не адна Кабыляцкая гара стала апошнім прытулкам генацыду. Так, не адна. Такім прытулкам быў і Камароўскі лес каля Менску. Там заплацілі сваім маладым жыцьцём за любасьць да Беларусі паэты і пісьменьнікі: Валеры Маракоў, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Андрэй Аляксандровіч, Уладзімер Дубоўка, прафэсар Ігнатоўскі, Прышчэпаў і іншыя.

Кандыдатамі на Камароўку былі "сябры" "Саюзу вызваленьня Беларусі": Франц Гінтаўт, Сяргей Русаковіч, Уладзімер Гуцько, Язэп Лешчанка, Янка Новік і іншыя. Іх сьмерць пашкадавала... ГПУ ведала, што ніякага "Саюзу вызваленьня Беларусі" ня было, а "всесоюзные стройки" патрабавалі мазалістых дармовых рук. Вось і загналі гэтых "контрыкаў" на "Седанстрой" (каля Уладзівастоку) і другія "стройкі".

Шмат хто яшчэ думае, што рэпрэсіі пачаліся з 1937 году. Але са сьведчаньняў выяўляецца іншая карціна: рэпрэсіі пачаліся з 1930 году і пацягнуліся да самай вайны.

*М.К.*

## "Таемнае жыцьцё мёртвае зоны"

Так называецца артыкул Антона Мацко, зьмешчаны ў "Новом русском слове" ад 28 лютага 2001 г.

Аповед у артыкуле — пра Чарнобыльскую зону. Яна займае 30 кілямэтраў навокал Чарнобыля, агароджана калючым дротам, маюцца блокпасты, кантралююцца з паветра. Пракнікнуць у Зону можна толькі па Прыпяці, падкупіўшы капітана параплаву, які едзе ў Беларусь па калійную соль.

Пасьля аварыі людзей высялілі, але некаторыя засталіся, як, напрыклад, дзед, якога за доўгую белую бараду празвалі Хатабыч. Ён кажа: "Усе гэтыя васьміногія каровы, і трохгаловыя трусы—бздуры. Я тут восем гадоў жыву і



ніякіх мутангаў не сустракаў. Вось воўкасабакі — зусім другая справа. Гэта рэальныя і страшна небясьпечныя стварэньні. (Мы да іх яшчэ вернемся).

Па лясох блукаюць прыземістыя, грывастыя, доўгахвостыя табуны дзікіх коней. А па Зоне разгульваюць бандыты: і грузіны, і расейцы, і эстонцы, якія хаваюцца ў Зоне ад кары за забойствы, кражу. Яны гоняць самагонку, сеюць мак і каноплю, з якіх вырабляюць наркоцікі, забіваюць зьвяроў, дзікіх коней, ваўкасабакаў і... прадаюць у бліжэйшых гарадох.

Ёсьць у Зоне сьвятар. Ёсьць сталіца — вёсачка Вершычы з 16 хатамі. Законы ў бандыцкай рэспубліцы страшныя. Вінаватых не растрэльваюць, а прыязваюць да дубовае калодкі і пакідаюць у полі. Праз ноч застаюцца толькі косьці і калодка. Ваўкасабакі маюць доўгія клыкі...

Адзін бядак так крычаў, калі яго разрывалі воўкасабакі, што... страшна было слухаць.

Жыцьцё ў рэспубліцы "б'ёт ключом"...

**************************************************************

## Дзе Захаранка, Ганчар, Красоўскі ?

Як паведамляе "Народная воля" (Нр.192), дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Вольга Абрамава задала А.Лукашэнку пытаньне пра стварэньні незалежнай камісіі па расьсьледаваньню зьнікненьня Захаранка, Ганчара і Красоўскага.

Лукашэнка адказаў, што ў Беларусі кожны год прападае больш за 2 000 чалавек, а таму "падымаць на шчыт дваіх-траіх ня трэба", а трэба дапамагаць сьледчым шукаць тыя тысячы... А як шукаць? А вось як: "Определите для себя кусочек поиска, если Вы это хотите, я буду Вас поддерживать". Дык-жа Вольга Абрамава і "определила" для сябе той "кусочак": Захаранка, Ганчар і Красоўскі... Чаму-ж Лукашэнка яе не падтрымлівае?.. Ён абвінавачвае жонак Захаранка, Ганчара і Красоўскага ў тым, што яны не адрэагавалі на яго запрашэньні для перамоваў, а сядзелі каля Дварца Рэспублікі з "этими портретами..."

Паслухаем жонак:

**Вольга Захаранка** : "Лукашэнка ніколі не запрашаў мяне на размову. А за ўвесь час, што мы жывём у Нямеччыне, із краіны, ў якой нібы фармальна актыўна шукаюць майго мужа, са мною не спрабаваў зьвязацца ні адзін сьледчы, ні адзін чалавек."

Называе Волга Захаранка "бруднай хлусьнёю абвінавачваньне Лукашэнка ў тым, што Захаранка "понастроил себе особняков, наворвал машин..." "Я ня ведаю, што зрабілі з Юрыем. Але ведаю, што, калі-б мой муж быў жывы, Лукашэнка не дазволіў-бы сабе такіх пасажаў. Захаранка заўсёды мог яму заткнуць рот. Ён яго не баяўся. За гэта і паплаціўся."

**Зінаіда Ганчар** : "Я жонка Віктара Ганчара. Я хачу ведаць, што адбылося з маім мужам. І не Лукашэнку абсуджаць мае паступкі. Я зьвярталася ва ўсе праваахоўныя структуры Беларусі і часта не атрымлівала адказаў на мае пытаньні. Многія чыноўнікі да гэтага часу не палічылі патрэбным ня толькі спаткацца са мною, але і адказаць на мае пытаньні. Я маю на ўвазе Латыпава, Посахава, Шэймана, Ерына. Таму я зьвяртаюся і буду зьвяртацца за

дапамогай у міжнародныя структуры...

Мой муж палітык. І калісьці займаў высокія дзяржаўныя становішчы. Быў апанентам Лукашэнкі. Хацеў удзельнічаць у прэзыдэнцкіх выбарах. За маім мужам заўсёды сачылі. Тэлефоны нашы заўсёды праслухоўваліся. Кватэра праглядалася, і ўсё гэта, я ўпэўнена, не бяз ведама галавы дзяржавы. Лукашэнка дасканальна ведае, што адбылося з Віктарам. І вельмі хоча, каб пра гэта ніколі не даведаліся ні родныя, ні грамадзкасьць.

Вельмі шкада, што Аляксандар Рыгоравіч будзе жыць з пачуцьцём няўхільнага разаблачэньня."

**Ірына Красоўская** : "Калі чалавек прынародна пачынае апавядаць пра якіясь рэчы, якіх ня было і ўпаміне, як можна ацаніць яго псыхічнае здароўе? Ні Лукашэнка, ні ўся яго Адміністрацыя нікуды і ніколі мяне не запрашалі. Ніякіх заяваў ці проста нейкіх нармальных спачувальных слоў з іх боку ў адрыс мае сям'і таксама ніколі ня было.

Мы выйшлі на Кастрычніцкі пляц з партрэтамі сваіх сужэнцаў з тым, каб насяленьне гэтай краіны задумалася над тым, што адбываецца.

Асабіста я прасіцца на спатканьне з Лукашэнкам ня буду. Гэта яго абавязак. Ён мусіць даказаць народу, што ён няпрычасны да ліквідацыі сваіх апанентаў. Лукашэнка сьцьвярджае, што яму пра прапаўшых вядома амаль усё. Ці не пара прыадкрыць заслону? Ці не пара сказаць праўду, Аляксандар Рыгоравіч?"

********************************************************

## Растрэльны пісталет



Із яго ліквідуюць супраціўнікаў Лукашэнкі.

Агульны выгляд прадстаўленага на абсьледваньне пісталета з глушыцелям і магазынам.

Кожны год у Менску казьняць 30-40 чалавек, З 1996 па 2000 год выканна больш за 130 сьмяротных прыгавораў, ня лічачы таемных бяз суда і сьледства.

********************************************************

## Загадка Лукашэнкі

Апошні паступак Лукашэнкі радыёстанцыя "Свабода" лічыць загадкай. Ён павыганяў усё беларускае акружэньне, замяніўшы расейцамі. Набліжаюцца выбары, і Лукашэнка баіцца беларусаў. У расейскім акружэньні яму будзе "вальготней". Таму выгнаў галаву Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Уладзімера Мацкевіча. На яго мейсца назначыў расейца Ерына. Уволіў галоўнага пракурора Беларусі Алега Бажэлку і начальніка асабістай аховы Шэймана...

У штогадовым пасланьні парлямэнту заявіў: "Мы подвергаемся интенсивному неготивному воздействию извне с использованием самых разнообразных форм и методов." Ён адмеціў, што старшыня КГБ Леанід Ерын "еженедельно" паведамляе яму пра факты шпіёнскай дзейнасьці чужаземцаў, якія спрабуюць вербаваць беларускіх грамадзян." Лукашэнка даручыў Ерыну правяраць "малейшое подазрение в шпионаже и вмешательстве во внутркние дела" Беларусі.

Пра такое ў народзе кажуць: "Гарыць на злодзею шапка". Дабавім: Як на Мілашэвічу...

Пачуўшы па радыё песьню "Фельліні", якую выконвалі дуэтам лідары расейскіх рок-групаў, назваў тэкст "прапагандай нездаровага вобраза жыцьця" і загадаў неадкладна "убрать" із эфіра ўсіх беларускіх радыястанцый гэтую песьню. Асабліва разлавалі Лукашэнку радкі: " Герой на героине, героиня на героине " Маладзец Лукашэнка, нічога ня скажаш. Але, быў-бы ён сапраўдным маладцом, каб на беларускім радыё гучалі не расейскія "Фельліні", а беларуская "Люблю наш край, старонку гэту, Дзе я радзілася расла..." *М.К.*

## Лукашэнка патрабуе...

Лукашэнка, выступаючы перад дыпляматамі, акрэдытаванымі за рубяжом, падчыркнуў, што "Беларусь патрабуе адносіцца да яе як да роўнапраўнага партнёра".

Ён вітаў прэзыдэнта Буша з яго перамогай на выбарах, а таму, бадай, спадзяецца "на рэалізм новай адміністрацыі ЗША, які (рэалізм) дапаможа зьблізіць пазыцыі па шэрагу актуальных праблемаў".

Лукашэнка лічыць што "на фоне пацяпленьня на эўрапейскім напрамку палітыкі ЗША ў адносінах да Беларусі выглядае сур'ёзным кантрастам. І хоць сягоньня Эўропа фактычна прызнае Беларусь, як і раней, але вельмі вялікі ціск на эўрапейскія дзяржавы".

Лукашэнка прызнае, што сёньня ЗША зьяўляецца звышдзяржавай, але будаваць зь імі адносіны ён гатоў толькі на роўнапраўнай аснове і ўзаемна-паважаньні".

Па словах Лукашэнкі, складанасьці на заходнім напрамку сталі вынікам рашэньня Менску будаваць саюз з Масквой. Другой прычынай адмоўных адносін стала ўнутраная палітыка, якая "нікому, ні Ўсходу, ні Захаду не дазволіла прыватызаваць сваю дзяржаву".
А як-жа наконт таго, што ў Беларусі няма ні адной вышэйшай беларускай навучальнай установы, што ў Менску беларускамоўных школаў толькі адзінаццаць, а расейскамоўных — больш за сто?

Хіба гэты генацыд не "прыватызацыя" Беларусі Масквою?..

***М.К.***

## Анекдот

Адзін бомж другому, напаўняючы шклянку:
—Вася, чуў, швайцарская пракуратура прышывае Пал Палычу яшчэ і арганізацыю праступнага "сообщества"?
— Якога такога "сообщества" ?
—Да, напэўна, Расеі і Беларусі...

## Лукашэнку ігнаруюць

Лукашэнку ігнаруюць ня толькі Заходнія краіны і Амэрыка, але і Расея. І ён абураецца. На яго думку, дзейнасьць ураду Расеі вядзе да зрыву эканамічных праграмаў. На паседжаньні парламенскага сходу Расеі і Беларусі ў Гродно Лукашэнка сказаў: "Я магу прывесьці нямала прыкладаў, калі Ўрад Расеі прымае рашэньні, шкодныя таваравытворцам. Расейскі прем'ер Касьянаў Міхаіл спрабаваў у абход беларускага боку і без пагадненьня з намі " откаректировать" саюзны бюджэт".

Лукашэнка напомніў, што бюджэт быў зацьверджаны на паседжаньні вышэйшага дзяржсавета саюзнае дзяржавы і гэтае рашэньне зьяўляецца міжнародным дагаворам.

"Калі дагавор падпісаны, дык чаму ён не выконваецца? Чаму дагавор, падпісаны, для прыкладу, з Нямеччынай, выконваецца, а зь Беларусьсю — не выконваецца?"

А таму, адкажам мы, што нямецкія кіраўнікі не ўніжаюцца перад Расеяй так, як Лукашэнка са сваёй інтаграцыяй...

## Хвароба Лукашэнкі

Урач-псіхіатар Шчыгольскі сказаў:
"У Лукашэнкі — "мазаічная псіхапатыя".

Гэты-ж дыягноз быў устаноўлен у такіх вядомых асобаў, як Гітлер і Сталін". — піша рэдактар "Нового русского слова" ў артыкуле: "Мазаіка псіхадрамы Аляксандра Лукашэнка". ("НРС" ад 18 студзеня 2001 г.).

"Цікавым вывадам у працы Шчыгельскага гучыць тэзіс аб канстытуцыйнай неадпаведнасьці Лукашэнкі пасадзе, якую ён займае. Таму Дзімітры Шчыгельскі ў звароце да дэпутатаў беларускага парламэнту заклікае іх неадкладна стварыць спэцыяльную экспартна-псіхіятрычную

камісію для дадатковага абсьледаваньня Лукашэнкі".

Але замест гэтага, пракуратура Беларусі распачала крымінальную справу супраць Шчыгельскага, абвінавачваючы яго ў паклёпе на прэзыдэнта Беларусі. Як будзе разьвівацца псіхадрама Лукашэнкі, пакажа недалёкая будучыня.

Як піша "НРС", дакументы пра хваробу Лукашэнкі псіхіятар Шчыгельскі апублікаваў толькі па прыезьдзе ў Амэрыку. Невядома толькі, ці ён прыехаў часова, ці на стала. Хаця згодна з кастытуцыяй Беларусі, паклёп на прэзыдэнта не зьяўляецца крымінальным, але для Лукашэнкі закон ня пісаны... Няўжо ён задумаецца над тым, што яго чакае лёс Мілашэвіча?

*А.Б.*

❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀

## Наўжо?

І з разаблачэньня былога "завхоза" Лукашэнкі Іванам Ціцянковым: "Аляксандар Лукашэнка ў апошні час выдзяліў 20 мілёнаў даляраў для праслухоўваньня тэлефонных размоваў вышэйшага кіраўніцтва краіны.

Са жніўня 1999 году ахова прэзыдэнта Лукашэнкі была павелічана ў 200 разоў. Рашаючае значэньне ў "судьбе" Лукашэнкі сыграла рашэньне старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча і кіраўніка Ўраду Кебіча паручыць яму заняцца праблемай, на каторай, па іх задуме, ён павінен быў "зламаць сабе шыю" барацьбой з карупцыяй. А гэтая барацьба і стала тым "каньком", асядлаўшы якога, Лукашэнка ўехаў ва ўладу".

Ціцянькоў у інтэрвю беларускай недзяржаўнай газэце "Дзень" падцьвердзіў прычаснасьць Лукашэнка да зьнікненьня вядомых у Беларусі палітыкаў, журналістаў, бізнэсмэнаў.

"Грошы ад прадажы Турцыі і Іраку вялікай колькасьці зброі, пакінутай савецкай арміяй, паступалі ў прэзыдэнцкі фонд, а не ў дзяржаўны.

І вось што атрымліваецца: сам толкам не працуе, інцыятыву праяўляць не дазваляе — усе баяцца, што за інцыятыву можна пастрадаць... Калі сем гадоў прэзыдэнства Лукашэнкі адкінулі нас назад на 15-20 гадоў, дык наступныя 5 гадоў паставяць краіну на калені".

І няўжо беларускі народ не адумаецца і ня дасьць Лукашэнку ад варот паварот?..

❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀

**Беларускія мастакі ў замежжы"** . Так называецца памятны альбом пра 25 гадавых выставак беларускага мастацтва і народных вырабаў. Выставы адбыліся ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры (1973-1997).

Альбом прысьвечаны памяці Аўгена Кудасава. У рыхтаваньні гэтага альбому бралі ўдзел: Ірэна Рагалевіч-Дутко, Мікалай Дутко, Надзя Запруднік, Янка Запруднік, Вера Запруднік і Алекс Сільвановіч.

Альбом выдадзены на добрай-глянцавай паперы. Адчыняецца альбом артыкулам Янкі Запрудніка "Як гэта ўсё пачалося".

На выстаўках паказвалі свае абразы і іншыя экспананты (вышыванкі, тканіны, паясы, шкатулкі, фатаграфіі і інш.) 201 асоб. Сьпісак умельцаў пададзены ў альбоме.

Па-беларуску і па-ангелску пададзены кароткія весткі і выказваньні творцаў пра значэньне мастацтва для свайго народу. Зьмешчаны каляровыя фатаграфіі мастачак і мастакоў і па тры здымкі кіраўніцтва наступных асобаў: а.Канстанціна Бандарука, Дзімітра Бажко, Віктара Жаўняровіча, Лідзіі Каліноўскай-Даніловіч, Надзі Кудасавай-Запруднік, Алега Махнюка, Людмілы Махнюк, Пётра Міpановіча, Тані Масіюк, Міхася Наўмовіча. Пётра Нядзьведзкага, Ірэны Рагалевіч-Дутко, Аляксандра Раманоўскага, Галіны Русак,Аляксандра Стагановіча, Тамары Стагановіч, Ксені Тумаш, Анатоля Чайкоўскага, Дзімітры Чайкоўскага, Уладзімера Шыманец і Івонкі Шыманец-Сурвілы.

❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀❀

# SAINT EUPHROSYNIA BELARUSIAN GREEK-ORTHODOX CHURCH
## 50TH ANNIVERSARY OCTOBER 22, 2000

*Presented by Vitali Cierpicki*, Former President, of Church Building Committee.

Your Emminence Metropolitan Nicholas, Honorable Clergy, Honorable members of the South River Governing Body, dear guests, ladies and gentlemen,

This is a very broad subject, therefore I will try to present the most important facts in a short way. Our story begins in June, 1944, the month that marked the end of the most horrific conflict in mankind's history, World War II. This was also the month which marked the beginning of an exodus of Belarusians leaving behind their most cherished treasures; their land, homes and in most instances their families and friends. Not only were they displaced by war, but also by what waited for them if they dared to return to their native land; deportation to camps, imprisonment or slaughter at the hands of their Soviet enslavers.

After living in the DP Camps of Western Germany for several years, these people began to resettle in various countries that would accept them and allow them to start new lives. The people of the United States were the most generous and welcomed the largest portion of immigrant Belarusians to their great country. And like the many and varied ethnic groups that came before them, they clung together and settled in local groups in order to help one another assimilate to their new homeland. South River, a small town which had always been a miniature melting pot, drew many of the new immigrants because of familiar ethnic and cultural characteristics as well as the town's proximity to many employment opportunities.

The Belarusian community in South River continued to evolve and grow rapidly, drawing immigrants who had originally settled in other regions as well as other countries, such as England and Argentina. South River and its neighboring towns quickly became the cultural and national center for this new community. What was lacking was a spiritual anchor for these new émigrés. That was about to change. On November 23, 1950, a meeting was held to establish a church to serve God in the name of Belarusian immigrants of the Orthodox Christian faith. Thanks to the initiative of Rev. Nikolas Lapitski, Sviataslau Kous, Wladimir Brylewski and other people of good faith, a decision was made to apply to the Ecumenical Patriarchate of Constantinople for recognition of the new Church of St. Euphrosynia of Polotsk and to place it under the Patriarchate's jurisdiction. The newly formed Parish Council also sought local acceptance and jurisdiction from the Exarch for North and South America, Archbishop Michael. *Reverend Nicholas Lapitski was offered the position as the Church's first Parish Priest* and the position of choir director was offered to Mr. Arkady Jeviec.

Parishioners also elected the following to the newly formed Parish Council:

Chairman-Wladimir Brylewski

Memebers-Sviataslou Kous, Michael Sienko, Russel Zavistovich, Chriodar Visotski, Victor Litarowich, Alex Asipchyk.

In a letter dated December 29, 1950, Archbishop Michael notified the newly formed parish of his acceptance of St. Euphrosynia Church and its priest into his jurisdiction. This wonderful news signaled the beginning of a very difficult project. To turn this noble idea into reality would take money, hard work and dedicated members. Let's not forget that in 1950, these newly arrived immigrants were barely earning enough to afford the bare necessities such as housing, clothing and food. Nevertheless, the first Liturgy was celebrated on Christmas, January 1951, in the Conklin Methodist Church in South River.

The Parish was next able to rent a storefront on Whitehead Avenue for $35.00/month, which would serve as our church until October of 1953. During this period, the parishioners, in order to meet church requirements rebuilt the place of worship and Icons that Fr. Lapitski had brought with him from Germany were used to decorate the interior. At this time Chriodar Visotsky was elected Starasta (elder), and Sofia Scors Chairwoman of the Church Sisterhood. In addition, numerous activities and fundraisers were held in order to assist brethren still living in German DP camps. The Church periodical "Church Beacon" began publication during this period as well.

The Parish Council, Priest and parishioners continued to dream and work towards creating a permanent and more usable home for their worship. In September of 1952, the parish purchased a plot of land with the intention of building a permanent church on it. Fundraising began in earnest for the building project. In the meantime, a suitable building became available for purchase. The building on 187 Whitehead Avenue, which would become the first freestanding home of St. Euphrosynia Church, was bought in the summer of 1953 for the sum of $15,250.00. Since the Parish did not have that sum of money, most of the cost of the purchase came in the form of a mortgage and loans from parishioners. After a great deal of volunteer work in refurbishing and decorating the building, it was opened for worship and dedicated on our Patron Saint's Day, October 14, 1953. Archbishop Michael, Exarch of the Patriarchate of Constantinople consecrated the new church, with the assistance of many clergy. The plot of land originally purchased for the church building was used instead as the Parish Cemetery.

The early struggles of our Parish were bearing fruit. Our new church was to become the center of our community, erasing the horrible memories of the past and creating new and wonderful memories. Weddings, Christenings and shared holidays brought us together. This religious and cultural 'renaissance' was a blessed time that we will always remember. At a time when air conditioning wasn't known, we danced until we were soaked while celebrating one another's good fortune and blessings.

The church was an educational center for religious instruction and Belarusian language. The children who attended those classes are now leaders in our religious and cultural life and we have every right to be proud of them. It is impossible to describe all of the wonderful events and activities that took place in that rich environment.

Many other clergy with parishes of their own visited the Church at this time. They include priests from other U.S. cities as well as Belarus. In fact many priests were ordained here, including Sviataslou Kous by Metropolite Hermanos, Oleg Machniuk to Deacon and Reverend Joseph Strok , elevated to Archimandrite.

As the parish grew, it became apparent that our little church on Whitehead Avenue had become too small. The only solution was to look for a larger piece of land, where we could build a new and larger church and community hall. It only took fourteen years to convince the governing body of the Borough of South River of the wisdom of selling our parish a parcel of land. On December 16, 1967, they agreed to sell to our parish three and half acres of land for the sum of $3,297.00. A smarter deal was never made. Then a Councilman, Mr. Floyd Wyluda was instrumental in making the purchase possible. Subsequently, the placing of the cornerstone for the new church was held on September 22, 1968.

This was a defining moment in our religious and national life, yet we were presented with our greatest challenges yet. The same questions and doubts arose, but on a grander scale; Where to start? Where to get the money? After being elected Chairman of the Building Committee, my biggest task was to cheer up the members, tell them not to panic, and keep their morale up. If at that time, someone had asked me to put my hand on the Bible and swear that I believed that we would build the church and hall, I most probably would have refused. But fortunately, no one ever asked me. Knowing our people at that time, I know it was very hard for them to part with their hardly earned and needed money.

However, I took as an example for myself the construction of many famous churches around the world that took many, many years to build. The only thing that we can do is the best we can. And if it takes many years, then so be it. No one could have imagined that in only four short years a miracle happened. Our wonderful, persistent parishioners accomplished the impossible. Starting with nothing, they worked tirelessly and completed our new church and hall and at a cost of only $151,000.

Dear Guests!

Can you imagine the number of priests and bishops that have served in our church over these last fifty years?

1. Rev. Nicholas Lapitsky
2. Rev. Julian Kaiko
3. Rev. Julian Trocki
4. Rev. Oleg Miranovich
5. Rev. Vsewolod Shemotilo
6. Rev. Eugene Survila
7. Rev. A. Selepenia
8. Rev. Jakob Kuzmitski
9. Rev. Peter Souchyc
10. Rev. Leonid Kuberski
11. Rev. Malatok
12. Rev. Pavel Wieliki
13. Rev. S. Ilchuk
14. Rev. Konstantin Bandaruk
15. Rev. Anatol Siegen
16. Rev. Gregory Latushka
17. Rev. Dimitry Bashko
18. Rev. Gregory O'Keiffe
19. Rev. Vasili Darashkiewicz
20. Rev. Joseph Strok
21. Rev. Serge Kucharski
22. Rev. Jan Prakapiuk
23. Rev. Sviataslau Koush
24. Miechyslau Brynkiewicz

1. Greek Exarch Michael
2. Greek Metropolitan Hermanos
3. Greek Bishop Filateos
4. Bishop Vsiewolod
5. Archbishop Afanasi
6. Archbishop Filafej
7. Bishop Issaia
8. Bishop Affinagorus

# Першыя крокі.

Прайшло ўжо два гады з моманту ўтварэньня Адзьдзелу БАЗА ў Новай Англіі. І прыйшоў час падвесьці вынікі першых крокаў нашага маладога, як па ўзросту самаго, гэтак і па ўзросту сяброў, Адзьдзелу. Але нельга не зазірнуць яшчэ далей, каб зразумець, а з чаго паўстаў Адзьдзел

Зноў і зноў у думках вяртаюся я ў той сьнежань 1998 году, калі я, адказаўшы "Так", на прапанову працы атрыманую ад фірмы ў Бостане, рыхтаваўся пераехаць у Бостан. Памятаю, як быццам гэта было ўчора, як шмат маіх сяброў са Згуртаваньня Беларусаў Канады і Парафіі Сьвятога Кірылы Тураўскага БАПЦ у Таронта, не ўхвалілі гэтага кроку, хаця й зразумелі яго. Шмат разважаньняў, ваганьняў і, нават, шчыра кажучы, боязі стаяла за гэтым крокам. І нават амэрыканская зарплата, якая, ў пераліку на канадыйскія даляры, больш чым у два з паловай разы перавышала мой апошні канадыйскі заробак, ня сыграла ў гэтым рашэньні галоўную ролю. А што-ж тады? Адкажу як на духу – Бостан. Так, Бостан. Памятаю, як прайшоўшы інтэрвью з маім будучым мэнэджэрам, вырашыў не марнаваць часу да цягніка, а прайсьціся па цэнтру Бостана. Два разы ў маім жыцьці перажыў я каханьне зь першага позірку: першы – да жоначкі сваей, якую кахаю без малога васемнаццаць гадоў, і другі да Бостану. Ня ведаю чаму, але ён мне чымсьці нагадаў Вільню, хаця здаецца зусім не падобны. Але калі Вільня, як маці, вядомая табе ўшчэнт з маленства і якую любіш адданай сыноўяй любоўю, то Бостан - як каханьне да жанчыны, якую ты спатыкаеш у квітненьні маладосьці, поўны сіл і жаданьняў.

Ня гледзячы на ўвесь рамантызм майго пачуцьця да Бостану, сам пераезд адбыўся зусім не рамантычна. Заладаваў я асабістыя рэчы ў машыну і паехаў. Памятаю, прыехаўшы – выладаваў іх. Якая тут можа быць рамантыка? Памятаю, што хваляваўся й думаў: як там мае дзяўчаты безь мяне, бо жонцы трэба было закончыць калэдж - а гэта яшчэ добрых шэсьць месяцаў. Пачаў працаваць. І хоць з пачатку працаваў нашмат больш чымсьці восем законных гадзінаў, але заставаліся субота й нядзеля, быў вольны час які раней увесь быў заняты нейкімі беларускімі справамі, тым больш, што ні знаёмых, ні сяброў у Бостане амаль ня было. Магчыма камусьці здасца дзіўным, але неяк само сабой пачало крышталізавацца перакананьне – трэба нешта рабіць.

Вядома можна было-б заняцца прыемным баўленьнем часу, тым больш што Бостан сам па сабе й Новая Англія як рэгіён прапаноўваюць шмат цікавых месцаў надведаць, бібліятэкі ломяцца ад яшчэ не прачытаных кнігаў, для рыбалкі ёсьць неабмежаваныя магчымасьці. Але ня гэта мяне цікавіла ў першую чаргу. Пераехаўшы ў Бостан, я неяк востра адчуў як мне не хапае беларускай грамады, беларускага жыцьця вакол. Гэта як паветра, якім дыхаеш не зьвяртаючы на яго ўвагу, і толькі калі гэтае паветра зьнікае ты пачынаеш, не раўнуючы як тая рыба выцягнутая з вады, прагавіта рашчыняць рот, каб захапіць хоць крыху таго паветра. Гэтымі спробамі захапіць паветра й былі мае штомесячныя вандроўкі ў Нью Ёрк на сходы тамашняга Адзьдзелу БАЗА.

Але ўжо й падзарадкі беларускасьцю раз на месяц пачало не хапаць. Хацелася пачаць дыхаць поўнымі грудзямі, прыйшло разуменьне таго што трэба ствараць беларускі асяродак у Бостане. Але чаго патрабуе стварэньне асяродку? Так, людзей. Бо з аднаго чалавека, нават зь вельмі адданага беларуса, ці нават з адной сям'і, не атрымаецца грамады. Зьвярнуўся я да старшыні БАЗА Антона Шукелойца, да дырэктара БІНіМу доктара Вітаўта Кіпеля і атрымаў некалькі адрасоў і тэлефонаў. Тэлефаную аднаму, другому, спатыкаюся. Вельмі цяжка пераканаць людзей, асабліва людзей у вельмі паважным узросьце, у патрэбе стварэньня беларускага асяродку ў Бостане. Людзі пражылі тут па 50 гадоў і ніколі не ўяўлялі сабе патрэбы такога асяродку, хаця шчырыя беларусы.

Проста адчай браў, калі спатыкаўся з тым, што чалавек ня толькі ня ведае простых, элемэнтарных рэчаў, а не жадае іх ведаць. Але выратаваў сітуацыю Інтэрнэт. Так праз Інтэрнэт адбылося знаёмства зь Сяржуком Казачэнкам і ягонай жоначкай Вікай, якія стварылі музыкальна-інфармацыйную бачыну на Інтэрнеце "Беларуская Музычная Крыніца". Неяк адразу пасьля знаёмства й тлумачэньня патрэбы зарганізаваньня беларускага жыцьця, Сяржук унёс дзьве каштоўных прапановы – не абмяжоўвацца толькі Бостанам, а браць шырэйшы рэгіён ды, паколькі для любой арганізацыі патрэбны грошы, зарганізаваць свой беларускі бізнэс, стварыць віртуальную музычную краму, што й было неўзабаве зроблена. Пачыналася з трох чалавек, але хутка зьявіўся й чацьверты, за ім пяты ну й г.д.

І, калі ў ліпені 1999-га пераехала да мяне мая сям'я з Таронта, высьвятлілася, што "хвароба" зайшла так далёка, што на павестцы стаяла пытаньне пра правядзеньне "беларускага барбекю". Што й было зроблена ў суботу 17-га ліпеня. Сабралася нешмат народу, але я зразумеў, што сабраўся фактычна беларускі актыў Новай Англіі, бо былі людзі зь некалькі штатаў Новай Англіі. Пад добрае бостанскае піва і смачныя стэйкі нетаропка рухалася размова, людзі прыглядаліся адзін аднаму, бо былі людзі якія спаткаліся ўпершыню, хаця амаль што былі суседзямі. Я плянаваў каб людзі прыглядзеліся адзін аднаму, пазнаёміліся. Ніякіх арганізацыйных, на гэта першае спатканьне, плянаў у мяне ня было. Але падзеі прынялі зусім нечаканы абарот, калі, пакойны зараз, спадар Корчык паставіў пытаньне рубам: - А што далей?

І мне ня прыйшлося пераконываць іншых, як само сабой выплыла ідэя арганізацыі. Праўда прыйшлося мне крыху папераконываць нашых "заядлых сэпаратыстаў", што ня трэба ствараць нейкую асобную арганізацыю, калі ўжо існуе Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, якое зьяўляецца федэральнай арганізацыяй. Мае перакананьні дапамаглі й таму пастанавілі назваць нованароджаную беларускую грамаду проста: Адзьдзелам БАЗА ў Новай Англіі. Ня было шмат дыскусій і пры разьмеркаваньні пасадаў. Аднагалосдна была зацьверджаная Ўправа Адзьдзелу: старшыня – Раман Кардонскі, скарбнік – Сяржук Казачэнка. Наглядную камісію ўзначаліў спадар Корчык.

Добра, Адзьдзел зарганізаваны. Высокае кіраўніцтва ў асобах Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілла і Старшыні БАЗА Антона Шукелойця паведамлены. Новаабраны старшыня Адзьдзелу, атрымаўшы віншаваньні, пачынае чухаць патыліцу. Шчыра кажучы, плянаваў я й рыхтаваў на пасаду старшыні Адзьдзелу Джо Пацэвіча. Тут народжаны, з роднай ангельскай мовай, мог-бы зрабіць добрую рэпрэзэнтацыю нашага Адзьдзелу перад штатнымі й федэральнымі палітыкамі. Але што зробіш калі ён не адгукнуўся на маё запрошаньне, а потым і ногул заняў нейкую незразумелую мне пазыцыю – адмовіўся наогул ад удзелу ў дзейнасьці беларускай грамады.

А патыліцу я чухаў, бо разам з утварэньнем Адзьдзелу й пасадай старшыні на маю галаву звалілася галоўнае пытаньне – што рабіць. Вядома я цудоўна ўяўляў, што нашай галоўнай задачай зьяўляецца рэпрэзэнтацыя нашай Бацькаўшчыны-Беларусі. Але гэта можа рабіць і адзін старшыня, і калі старшыні будзе мала, то скарбнік паджгае на дапамогу. Галоўным маім клопатам было зрабіць так, каб кожны сябра Адзьдзелу рабіў штосьці карыснае для Беларусі. А што мы можам рабіць? Мы - канкрэтныя беларусы-эмігранты жывучыя ў рэгіёне Новай Англіі.

Вядома адказ на такое пытаньне зусім не такое просты. Неяк у нашых беларускіх асяродках склалася такая сітуацыя, што ўсю працу цягне на сабе старшыня, у лепшым выпадку далучаюцца сябры Ўправы. Таму я ды, перакананы, што й вы, шаноўныя чытачы, зьвярнулі ўвагу на тое, як кожны з усіх сіл, не раўнуючы як чорт ад крыжу, адмаўляецца ад пасады старшыні грамадзкай арганізацыі бо грашэй няма, а кухталёў атрымліваеш з усіх бакоў.

Вядома ў маёй сітуацыі так востра пытаньне не стаяла., бо першая задача, якая з большым ці меншым посьпехам. пачала выконывацца была задача пашырэньня Адзьдзелу, ахопу большай колькасьці беларусаў жывучых у рэгіёне Новай Англіі і навязаньні лучнасьці з мясцовымі сэнатарамі, кангрэсмэнамі і іншымі афіцыяльнымі асобамі федэральнага й штатнага ўрадаў. Але гэтая праца штодзённая й крапатлівая. Былі зарганізаваны беларускія пікнікі й барбекю. Сябры нашага Адзьдзелу прынялі ўдзел у дэманстрацыях і пікетах ладжаных беларускай эміграцяй у Нью Ёрку каля кансулятаў Рэспублікі Беларусь і Расеі, каля будынку ААН. І таму, калі гэтыя першыя крокі былі зроблены, гэтае пытаньне зноў пагражальна паўстала перада мной.

Можна, вядома, седзячы ў Бостане змагацца з дыктатурай Лукашэнкі. Але, у найлепшым выпадку, гэта будзе віртуальнае змаганьне праз Інтэрнэт, мэтадам удзелу ў розных дыскусіях ці форумах. Гэта таксама патрэбна, бязумоўна, але не павінна станавіцца адзіным сродкам барацьбы. Хаця такія дыскусіі й нараджаюць пэўныя практычныя дзеі. Так было з праектам "Ганебныя граматы", якія ўручаліся найбольш адданым паслугачам лукашэнкаўскага рэжыму, так бы мовіць "ударнікам лукашызму".

Праз такія дыскусіі прыходзіла й разуменьне таго як шмат бракуе элементарнай бытавой культуры шмат каму з удзельнікаў дыскусій, як людзі ня ведаюць Беларускай Культуры й Гісторыі. Размаўляючы зь людзьмі й наведаўшы летась Беларусь прыйшло разуменьне чаму гэта адбываецца. Бо калі й нават моцна захацеўшы, то набыць кніжкі Караткевіча па-беларуску, я нават у Менску ня здолеў. Вярнуўся я з вандроўкі ў Беларусь з пэўнымі думкамі аб тым як мы, беларусы-эмігранты, можым практычна, штодзённай працай далучыцца да пашырэньня, папулярызацыі й захаваньня Беларускай Культуры, хаця-б у такой яе галіне як літаратура й музыка. І калі пэўныя крокі ў музычным кірунку, стварэньне крамы, папулярызацыя праз удзел у беларускіх імпрэзах, такіх як цудоўны Беларускі Фестываль у Саут-Рывэр, эх амаль плакаў я, што не ўдалося мне сёлета там пабыць, былі зроблены, то ў дачыненьні да літаратуры, як у нас у вёсцы Кямелішкі, Астравецкага раёну казалі – конь не валяўся. Тым больш, што шаноўны Андрусь Жвір зарганізаваў сваю "Беларускую Палічку", віртуальную беларускую бібліятэку. Але "Палічка" ёсьць, а кніжак на ёй не хапае.

Таму хуценька вырашылі мы гэты недахоп, па меры магчымасьці выправіць. Але вырашылі мы накіраваць нашыя высілкі на тое, каб папулярызуючы сярод суайчыньнікаў на Бацькаўшчыне, адначасова захаваць той пласт Беларускай Літаратуры які распрацаваны нашымі пісьменьнікамі-эмігрантамі. Мы ўсе іх цудоўна ведаем, гэта Кастусь Акула, Юрка Віцьбіч, Алесь Змагар, Ул. Случанскі, Масей Сяднёў і шмат іншых. Сказано-зроблена. І вось на "Беларускую Палічку" сталі: зборнік Кастуся Акулы "Усякая ўсячына", раман Ул. Случанскага "Драбы", першая кніга трылогіі Кастуся Акулы "Гараватка" пад назовам "Дзярлівая птушка". Ідзе праца над другой кнігай трылогіі Акулы пад назовам "Закрываўленае сонца", над аповесьцю Акулы "Tomorrow is yesterday". Пакрыху рухаецца пераклад гэтай аповесьці па-беларуску. Вельмі хутка стане на "Беларускую Палічку" й кніжка вершаў Алеся Змагара "Да згоды". Мы шукаем зараз усе чатыры квадры рамана Алеся Змагара "Случчына ў вагні".

Карыстаючыся магчымасьцю хачу зьвярнуцца да прадстаўнікоў пасьляваеннай хвалі эміграцыі з просьбай: Спадарства! Дасылайце тыя кніжкі якія выдаваліся нашай эміграцыяй. Я гарантую, што вы атрымаеце гэтыя кніжкі назад, пасьля таго як яны будуць набраныя ці адсканаваныя. Адзін вялікі пісьменьнік сказаў калісьці, што рукапісы не гараць. Магчыма яны й не гараць, але вось што на сьметнік іх выкідаюць, то я ведаю дакладна. А захаваныя ў электроннай форме яны нікуды ня зьнікнуць, гэта я вам як сьпецыяліст у галіне інфармацыйных тэхналёгій кажу. Я перакананы, што ня вечна будзе цемра дыктатуры панаваць над Беларусяй, узыйдзе сонца Нацыянальнага Адраджэньня й, тады тыя кнігі якія мы зараз ставім на "Беларускую Палічку" будуць запатрабаваны, а

падрыхтаваць іх да друку маючы адпаведны файл, справа некалькі гадзінаў, навата ня дзён. Ды й зараз гэтыя кнігі даступныя кожнаму, хто мае доступ да Інтэрнэту, усё што Вам трэба зрабіць гэта набраць адрас www.knigi.com. Дык давайце супольна захаваем для сябе й наступных пакаленьняў той багаты пласт Беларускай Літаратуры які быў распрацаваны на чужыне. Усё, што вам трэба зрабіць дык гэта выслаць нам кнігі, якія вы абавязкова атрымаеце назад. Нам ня трэба больш аднаго асобніка.

Але ці толькі літаратурай жыве культура? Вядома-ж не і таму неўзабаве даведаўшыся аб прыездзе ў Чыкага вядомага беларускага барда Віктара Шалкевіча Адзьдзел БАЗА ў Новай Англіі ліхаманкава, літаральна за пяць дзён, падрыхтоўвае сапраўдныя гастролі гэтага таленавітага актора й барда. Адбылося шэсьць канцэртаў: два ў Чыкага, два ў Бостане, адзін у Нью Ёрку і адзін у Саўт-Рывэр. Цяпер карыстаючыся магчымасьцю хачу шчыра падзякаваць спадарства Рамукоў у Чыкага, Алу Орса-Рамана, Міхася Сеньку, Алекса Сільвановіча, Юрку Васілеўскага, Віталя Зайку, айца Зьміцера Башко і іншых за супрацоўніцтва у арганізацыі гэтых гастроляў. Пачатак пакладзены й мы ня зьбіраемся на гэтым спыняцца. Арганізацыя гэтых гастролей паказала, што калі мы разам, усе беларускія асяродкі, каардынуем нашыя высілкі, разам робім адну справу, то мы можым літаральна горы зьвярнуць. Галоўнае гэта працаваць супольна, супраць гэтага, як я спадзяюся, ніхто ня будзе супярэчыць.

Калі ў чытачоў зьявіліся пытаньні, ці нейкія пажаданьні то мы просім ветліва зьвяртацца па тэлефону ( 781) 369-1410.

Ці пісаць на паштовы адрас:

Belarusan American Association of New England
33 George Road
Winchester, MA 01890
E-mail: raman@draniki.com

Раман Кардонскі

# Успаміны...

*Яўген Лецка*

**Добры, мудры і шчыры.**

*(Заканчэньне, пачатак у 49 нр.)*

"Вой, цётачка, акадэмік! — рагатаў ён. — я яшчэ ім павінен нешта даводзіць! Акадэмікі, а пяці слоў па-беларуску сказаць не могуць! І не ведаць ні адной эўрапейскай мовы! Дык іх-жа трэба ў кнігу Гінэса пазаносіць.! Я іх усіх пазбаўляю званьняў!.. — рашучым і імгненным, не па гадах маладзецкім рухам рукі ад правага пляча да левага калена як адсякаў ён.

Сьмяяцца — ня грэх. Сьмех, як сцьвярджаюць лекары, справа карысная. Але-ж вядома яшчэ і тое, што сьмех — рэч сур'ёзная.

Калі гаварыць пра асобу Б.У.Кіта, то, паўтаруюся, — перад намі чалавек своеасаблівы, ўнікальны непаўторны. І бясспрэчна здольны ў самых розных праявах сваёй дзейснай шматграннай натуры. У тым ліку і ў абсягах астранаўтыкі, да якой ён меў непасрэднае дачыненьне, ў чым лёгка пераканацца, адгарнуўшы адпаведнныя старонкі прысьвечаных яму кніг. На зьмешчаных там здымках мы бачым нашага суродзіча побач з сусьветнавядомумі аўтарытэтамі ў астранаўтыцы. Але знаходзіцца **побач** — не заўжды абазначае быць з паплечнікам **роўным**. Маю на ўвазе **рэальны** ўклад кожнага ў навуку і іх ролю ў асваеньні касмічнай прасторы.

Паводле сьведчаньня Расьціслава Завістовіча Кіта "вывела ў людзі" выдатнае веданьне расейскай мовы, шырэй — мэнталітэту расіян, іх звычак, традыцый, гісторыі і культуры. Якраз тое, чаго амаль немагчыма дасягнуць у выніку рацыянальна пастаўленай перад сабой задачы прадстаўніком далёкага ад Расеі народу. У Барыса-ж было арганічнае далучэньне. Ягоны бацька Уладзімер разам з сястрой Юляй яшчэ ў па-за мінулым, гэта значыць XIX стагодзьдзі ў пошуках лепшай долі падаліся на заробкі ў Санкт-Пецярбург. У горадзе на Няве беларускі хлопец пазнаёміўся і неўзабаве ажаніўся на карэннай русачцы, якая і нарадзіла яму ў 1910 годзе сына. Але пасьля рэвалюцыі, ратуючыся ад неразьбярыхі, голаду і валатнечы, сям'я Кітоў вярнулася на родную Наваградчыну, ў вёску Агароднікі, што цяпер зьлілася з Карэлічамі. Тут, дзе так шмат

колішняй беларускай славе і быў моцным нацыянальна-вызвольны рух, Барыс і выхаваўся сьвядомым беларускім патрыётам, чаму зусім не перашкодзіла ягоная мацярынская "руская закваска", якая, аднак, паспрыяла праз шмат гадоў у службовым росьце. Ды адной яе, зразумела, было-б замала, каб па-належнаму не варыла галава, каб не было яшчэ і дыпламатычных здольнасьцяў, уменьня наладжваць кантакты, быць проста прыемным суразмоўцам у супольнічаньні, прадстаўнікамі розных народаў, чаму, апрача рускай, спрыяла веданьне і іншых замежных моў. Адным словам выбар тых, якія вырашалі,паў на Барыса Кіта, што дала яму ўнікальную магчымасьць ушчыльную наблізіцца да славутых людзей дваццатага стагодзьдзя, паўдзельнічаць у многіх прадстаўнічых міжнародных формах, пабыць на розных кантынэнтах і наведаць дзесяткі краін. У іншага ад усяго гэтага мела-б так ускружыцца галава, што зь яе вівэтрылася-б памяць і напамінак пра родны бацькаўскі край, ягоную мову, гісторыю , культуру. Прыкладаў такога міжвольнага манкуртцтва больш чым дастаткова і шукаць іх далёка ня трэба, дастаткова пагартаць энцыклапэдыі, ды пераканацца, колькі сапраўды здольных, як цяпер модна на польскі лад казаць, выбітных беларускіх людзей па самай волі-няволі трапляла ў Расейскую і савецкую імпэрыі на іх бязьмежныя абшары, найперш асядал аў Санкт-Пецярбурзе і Маскве. Пакінулі родны край сотні тысяч, але беларусамі ў дакладным сэнсе гэтага вызначальнага слова, гэта значыць духоўна поўнавартаснымі і душэўна не пагвалчанымі людзьмі, якія ведаюць, шануюць і прапагандуюць сваю мову, гісторыю і культуру засталіся адзінкі. Як у асяродзьдзі простага "няўцямнага" люду, так і сярод высокаадукаваных і ўганараваных гэнералаў і акадэмікаў, навукоўцаў і міністраў, ня кажучы пра звычайных "чынадралаў". Дый папракаць іх нібыта не выпадае з улікам масавай дэнацылізацыі і дэмаралізацыі, якая станавілася нормай у самазахаваньні і выжываньні так званай нібыта "эліты", нібыта "інтэлігэнцыі" тут, на Бацькаўшчыне, якая на працягу стагодзьдзў вымушана была скакаць і пець пад імпэрскую дудку, жывучы ў вечным страху быць пакараным за тое, што чалавек застаецца самім сабой, такім, якім яму быць наканавана самім Госпадам Богам. Ды, на жаль, улада д'ябла бывае ў рэальным пабытавым жыцьці куды больш уплывовай дзейснай і моцнай. Зразумела, для слабых, кволых духам, бо моцныя добра ўсьведамляюць прывіднасьць д'ябальскай моцы яе, што церпяць часовасьць...

У кантэксьце сказанага варта аддаць належнае такім, як Барыс Кіт. Сваю беларускую годнасьць ён сьвята шанаваў і ў эміграцыйным асяродзьдзі Злучаных Штатаў Амэрыкі і, што асабліва паказальна, пасьля таго, як пераехаў працаваць у Заходнюю Эўропу, дзе ён ад 1972 году жыве на самоце, адзінцом, ня маючы магчымасьці перакінуцца хоць з кім словам па-беларуску. Ды мова — гэта найвялікшы Божы дар, ня толькі на вуснах, а найперш у чалавечых душах. А сваёй душы сапраўдныя вернікі д'яблу спакушаць не дазваляюць...

Усё, а найперш самаахвярная і плённа-выніковая дзейнасьць на Бацькаўшчыне па наладжваньню беларускамоўнай адукацыі даюць падставы без нацяжак залічыць Барыса Кіта да выдатных беларусаў XX стагодзьдзя. Няма сумненьня, што такія людзі, а іх вопыт і прыклад застаюцца быць надзвычай патрэбнымі і павучальнымі і ў нашы скрутныя для нацыянальнаг смавыжываньня часы, зслужылі, каб пра іх былі напісаны кнігі. Бо за імі вялікі пласт жыцьця, імёны дзясяткаў і сотняў такіх-жа самаахвярнікаў-паплечнікаў. Дарэчы, менавіта гэтым цікавая і карысная кніга Андрэя Чэмера "Выбраныя Богам", аўтар якой, Аляксей Анішчык (сапраўднае імя гучыць менавіта так) таксама пражыў другое і напоўненае драматычнымі падзеямі жыцьцё і быў вучням Кіта на

Наваградзкай беларускай гімназіі, пра якую ён таксама пісаў фактаграфічна цікавую кнігу. Ды рэальна зробленага Барысом Кітом яму, як і Лідзіі Савік, падалося недастатковым, і яны пачалі, пнучыся і высільваючыся, ўздымаць свайго гэроя "на катурны", прасьцей кажучы, на штучна сканструктаваныя хадулі. І з такой падачай, з такім пераўвасабленьнем сам Барыс Уладзіміравіч пагадзіўся, ўсё больш ужываючыся "ў ролю" "выбранага Богам", адчуваючы водар і смак славы "бацькі" амэрыканскай астранаўтыкі, няхай сабе і не ўзаконенай у афіцыйных навуковых і дзяржаўных колах, але ўсё адно п'янкой і прыемнай, бо была яна горача падмацаванай і імпэтна ўспрынятай тут на Бацькаўшчыне ў асяродзьдзі сьвядомай нацыянальнай інтэлігэнцыі, якую найперш цешыла зьяўленьне на праз вякі сталочанай беларускай ніве свайго ўласнага "месіі", які ня толькі ўяўляўся (ды што там уяўляўся, пра гэта было напісана ў кнігах) на галаву вышэйшым за тутэйшыя аўтарытэты, ў навуцы, але і быў непараўнальны з імі з гладзішча беларускай самасьвядомасьці.

За ўсёй гэтай нібыта прыватнай гісторыяй праглядваецца стан, узровень мысьленьня, а заадно і драма праз стагодьдзі паняволенага народу, ў якога імпэрцы з пакаленьня ў пакаленьне адбіралі сыноў і дачок, змалку выхоўваючы ў іх пагарду да свайго, роднага, апустошваючы гэтым самым кволыя душы, назаўжды пазбаўляючы чалавека ад маральнага абавязку, а значыць і высокага, Боскага сэнсу існаваньня, зьніжаючы яго да ўзроўню побыта-жывёльнага: абы ведаць, абы здабыць сабе наедак і піцьцё, ня дбаючы пра будучыню сваіх дзяцей і ўнукаў, пра духоўны ўклад сваёй нацыі ў разьвіцьцё чалавецтва. Ды ў такой ненармальнай, нават трагічнай сытуацыі небясьпека падкрадваецца і з другога боку. Бо пэўнае кола людзей, ідучы ад адваротнага, гатова амаль што абагаўляць усё, дзе ашчадзіліся прыкметы беларускасьці. Нібыта такім чынам сябе падымаем і ўзвышаем, а на самой справе ілюзію рэальнасьці, самі сабе засьцім вочы на складаныя праблемы жыцьця, ды робімся нядольнымі адэкватна ацэньваць гістарычную сытуацыю, ролю і магчымасьці ў ёй канкрэтных асобаў. Прыкладаў гэтаму безьліч. Нам нібыта няўцям, што жыцьцё, асабліва сучаснае, гэта не дзіцячыя гульні, дзе можна пацешыць сябе забаўкамі, а рэч надзвычай жорсткая і няўмольная, якая ад кожнага народу патрабуе ў вызначальныя моманты жыцьця мабілізацыі ўсіх сваіх духоўных і фізычных сіл. Калі народ сапраўды хоча быць гаспадаром свайго лёсу, зацікаўлены забясьпечыць сабе на вякі годнае жыцьцё і сваім духоўным "я" ўнесьці адметны ўклад у разьвіцьцё чалавецтва. Ну а калі ён увогуле страціў інстынкт самавыжываньня, тады што-ж — застаецца жабрачая доля і трэба з працягнутай рукой чакаць ад іншых міласьці і літасьці, задавальняючыся рольлю спрадвечнага нявольніка-раба, які ніколі ня меў ні годнасьці, ні гонару за свой род, сваю мову і культуру...

Мы, як народ, падыйшлі да трагічнай мяжы нябыцьця. Стаім на парозе прэзыдэнцкіх выбараў, гэта значыць і свайго гістарычнага выбару, калі чарговая памылка можа быць вызначальнай у сыходзе нацыі з гістарычнай арэны, канчатковага ператварэньня некалі магутнага духам і дзеямі народу ў шэрую масу, нікому нічым нецікавы натоўп абяздоленых і зьнявераных у саміх сабе людзей...

Прыкладна ў такім плане, з пераходам ад канкрэтных фактаў да больш істотных праблем, разьвіваліся нашы гаворкі з Расьціславам Завістовічам як пры нашай першай сустэчы на Бацькаўшчыне, так і пад час майго прыезду ў Вашынгтон, у тэлефонных размовах і перапісцы. Ня быў ён зласьлівым і зайздросным, а праўдзівым і справядлівым. Нібы зьдзіўляўся чалавечым хібам, ды імкнуўся спасьцігнуць зігзагі чалавечай псіхікі. Найперш дзеля высьвятленьня "чыстай" ісьціны. Таму не памятаю, каб ён падбіваў мяне на

публічныя спрэчкі, на палеміку ў друку. Хоць падказваў факты і перасылаў дакумэнты. Не бяруся тут перадаваць саму інтанцыю яго вельмі своеасаблівай, паэтычна-філасофскай гаворкі, бо тут патрэбны іншыя сродкі — не публіцыстычнага, а літаратурна-мастацкага пісьма дзеля стварэньня мастацкага вобраза, характара. У яго была нейкая дзяціная здольнасьць зьдзіўляцца ці пачутым ад мяне, ці прачытаным з газэт і кніг, якія я яму больш-меньш рэгулярна высылаў. Востра перажываў зьмізарненьне і занікненьне дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", ля вытокаў якога, мы, па сутнасьці абодва былі, аняменьне і здранцьвеньне, што ўсё больш ахоплівала і паралізоўвала дзейнасьць грамадзкай арганізацыі. Асабліва (нават ня ведаю, якое слова найбольш дарэчы) яго ўразіла, абурыў, усхваляваў артыкул на той час старшыні рады ЗБС Ганны Сурмач у "Народнай волі", прысьвечаны скандальна-гучнай справе, дакладней, авантуры, беларускага бізнесоўца з Сібіры Анатоля Селівончыка, які спакінуўся невядома чым і кім і, як памятаем, арганізаваў "наезд" на аўтобусах ваенізаванага юнацкага фарміраваньня з далёкай Цюмені на Беларусь, якое і ўчыніла гвалт над тутэйшымі жыхарамі.

Нечаканы-ж зыход з Беларусі самой Ганны Іванаўны ў Прагу нібыта па палітычных матывах у яго нічога, апрача паблажлівай усьмешкі, не абудзіў. Мной сказанае чэскае слова "ўпырхліца", што па нашаму значыць эмігрантка, яму вельмі ў гэтым выпадку спадабалася, яно, як меркавалі мы абодва, як нельга лепш перадавала ў нашым успрыняцьці несур'ёзнасьць учынку чалавека, які на даверанай яму грамадой пасадзе так гучна заяўляў аб сваім патрыятызме, аб бескарысным і самаахвярным служэнні Бацькаўшчыне.

Расьціслаў Завістовіч выконваў сваё грамадзкае прызначэньне ня гучна, без позы і паказухі. Але рабіў шмат і карыстаўся бяспрэчным аўтарытэтам сярод суродзічаў, застаючыся на працягу дзесяцігодьдзяў нязьменным старшынёй адной з самых уплывовых і дзейных на эміграцыі супольнасьцяў — Беларускага Кангрэсавага камітэту Амэрыкі. Апрача гэтага, пры вышэйшым заканадаўчым органе Злучаных Штатаў цягам гадоў узначальваў камісію па этнічных меньшасьцях. З улікам таго, што ЗША, па сутнасьці краіна эмігрантаў (маю на ўвазе ня толькі векі мінулыя але і сучаснае пакаленьне, якое праз бацькоў-дзядоў мае жывую памяць і повязь са сваёй спрадвечнай радзімай, гэта значыць і цяпер напалову складаецца з этнічных меньшасьцяў) няцяжка ўявіць, наколькі салідную, аўтарытэтную і ўплывовую пасаду займаў наш зямляк пры вышэйшым інстытуце першай па значнасьці дзяржавы сьвету. А таму кантактаваньне з першымі асобамі краіны было для яго справай звычайнай, будзённай, падцьверджаньнем чаму служыць і дасланыя мне фотаздымкі, дзе мы бачым Расьціслава Завістовіча пад час афіцыйных паседжаньняў разам з Прэзыдэнтам ЗША Білам Клінтанам, пры асабістых размовах-сустрэчах зь ім, першай ледзі Амэрыкі Гілеры Клінтан, ды з іншымі надзеленымі высокімі паўнамоцтвамі дзяржаўнымі асобамі.

Ці трэба даводзіць, як важна для кожнай краіны, асабліва для такой, як наша, што так пакутліва імкнецца здабыць міжнародны аўтарытэт і абцяжарана безліччу праблем, асабліва зьвязанымі з пераадольненьнем наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, мець такіх "агентаў уплыву". Такую ролю наш зямляк, наколькі мне вядома, выконваў у першыя гады пасьля здабыцьця Беларусьсю незалежнасьці — водгульлем таго часу могуць быць да апошніх дзён жыцьця цесныя сяброўскія повязі з колішняй першай асобай дзяржавы, Старшынёю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Станіслававічам Шушкевічам.

Ды потым у выніку вядомых рэфэрэндумаў краіна рэзка памяняла палітычна-ідэалагічныя арыэнтацыі і дзяржаўны курс: нацыянальная, асьвечаная гістарычным разьвіцьцём,

сімволіка была заменена крыху падноўленым бэсэсэраўскім варыянтам, беларуская мова страціла і так досыць кволыя пасьля чатырохсотгадовага ганьбаваньня і ўціску пазыцыі, а экономіка была пастаўлена на рэйкі так званага "рынкавага сацыялізму". Канстатуючы падзеі, зусім не хацелася-б сьцьвярджаць, наколькі ўсё гэта дрэнна ці добра, бо для мяне тут важней кіравацца даўнім прынцыпам"Sina incognito" гэта значыць асьвятляць падзеі без гневу і прадузятасьці. Факт бяспрэчны, што пасьля такой "зьмены вехаў" кантакты ня толькі Расьціслава Завістовіча, але і ўсёй заходняй дыяспары ( ў значнай ступені і ўсходняй) з афіцыйнымі ўладамі Беларусі ня тое што паслабелі, але ўвогуле абарваліся. Цяжка, ды па сутнасьці немагчыма, некага пераконваць у неправамернасьці такой пазыцыі.

Што тычыцца Завістовіча, то хоць ён і ня меў гістарычнай ці іншай гуманітарнай адукацыі па дыплому, але выдатна арыентаваўся ў падзеях як мінулых, такісучасных, дакладна ўсьведамляючы, што незалежнасьць краіны гэта не палітычная дэкларацыя, а напоўненая канкрэтным зьместам (нацыянальная ідэя, самастойная міжнародная палітыка з абавязковым улікам свайго дзяржаўнага інарэсу і эканамічнай выгады і г.д.) сутнасьць і што яна можа даць для духоўнага і матэрыяльнага ўзвышэньня роднага народу, і як яе можна лёгка страціць у гэтым няпростым сьвеце. А аргумэнтам на карысьць незалежнасьці быў для яго пройдзены Беларусьсю тысячагадовы шлях, веданьне што, яна мела ў часы сярэднявечча, калі была самастойнай і чым у той час узбагаціла сябе і чалавецтва, што страціла разам са стратай незалежнасьці, калі добраахвотна ўвайшла ў склад "саюзнай" дзяржавы Рэчы Паспалітай, а потым ужо разам "у братніх абдымках" зазналі ганьбу трох падзелаў, некалі дзьвюх магутных дзяржаў і была ўключана ў склад Расейскай імпэрі, гэтай, паводле ня толькі ленінскага хрэстаматыйнага вызначэньня "турмы народаў". І пераконваць таго (тых), хто на працягу ўсяго пасьляваеннага часу жыў, адслонены жалезным занавесам, у штучнай ізаляцыі ад Бацькаўшчыны, але саграваў сваю збалелую доўгім растаньнем з родным краем душу сьветлай марай пра дзяржаўнае і нацыянальнае адраджэньне, было, яшчэ раз падкрэсьлю, справай марнай. Адзінае, на што можна спадзявацца і чаго ў такой сытуацыі радыкальнага размежаваньня жадаць, дык гэта прыстойнага цывілізаванага захаваньня ў дачненьнях паміж прадстаўнікамі дзяржаўнай улады і іх апанентамі, бо абодва бакі павінны ўсьведамляць бяспрэчную ісьціну, што нічога вечнага ў гэтым сьвеце няма, ўсё знаходзіцца ў ня спынным руху і зьменах, і на замен адной грамадзкай фармацыі прыходзіць другая, нярэдка з супрацьлеглымі арыенцірамі і каштоўнасьцямі. А таму ўрэшце рэшт прысуд належыць не сучасьнікам, а гісторыі...

***

Так сталася, што ў згадках пра дарагога мне чалавека спыніўся на момант жыцьця, ў якіх найперш высьвечваецца ягоная грамадзянская існасьць. І такім чынам чыста асабістыя адметнасьці характару, ды некаторыя каларытныя дэталі нашага супольнага пабытаваньня засталіся не адцеменнымі. Хоць яны, мяркую па-свойму чытачу былі-б цікавымі. Напрыклад тое, як мяне па прыезьдзе цягніком з Ню Ёрку ў Вашынгтон сустрэла на вакзале сужэнства Завістовічаў і мы адразу-ж рушылі ў прапанаваны сп. Расьціславам экзатычны кітайскі рэстаран. Экзотыка так неўспадзеўкі атрымалася аж занадта "адмысловай".

Заля была амаль пустой і нязвыкла сьцішнавата ціхай, без характэрнага для нашых піцейных "прыстанкаў духу" п'янага гулу і ўедліва-назойлівай электроннай шырпатрэбнай "папсы". Невядома з'адкуль гучала сьцішка-ажурная

Маладыя. Нібы падхоплены яе рытмам, да нас падышоў па кітайску ветлівы кэльнер, схіліўся ў вітальным паклоне. Расьціслаў, параіўшыся са мной (з мяне, праўда, сьпец па кітайскіх справах выявіўся ніякі) і Іраідай Сяргееўнай, замовіў патрэбнае і кэльнэр,пагойдваючыся на хвалях мэлодыі, лёгка адыйшоў ад нас.

Завістовічы, вядомая рэч, цікавіліся ўсім, што дзеялася ў Беларусі, я адказваў. Ды тут, нечакана для нас (дзіва дзіўнае) з-пад стала на беласьнежны, расшыты ажурнай кітайскай мэлодыяй абрус выскачыла сапраўды экзатычнае стварэньне з роду тараканавых. На хвілю, прыглядаючыся-прынюхваючыся да незнаёмцаў, істота застыла і пагрозьліва-насуплена паварушыла чорнымі, са сталёвым адлівам цыганскімі вусамі. Быццам штосьці ўчуўшы, скранулася і жыва запабірала па абрусе даўгаватымі для яе нагамі-рукамі. Абабегла наўкол, зноў спынілася, потым, зусім для нас нечакана, ўзьнялася на заднія канечнасьці, а пярэднія, нібыта такім чынам запэўніваючы нас у сваёй шчырасьці-прыязнасьці, загарнула на выпучанай папялястай грудцы, дзе, калі толькі яно там было, татахкала малюпасенькае сэрца.

Тым часам кельнэр вяртаўся назад з падносам. Істота, ўчуўшы нядобрае, з усіх чатырох дала дзёру. Зьбегла на край стала і рашуча кульнулася па абрусе ўніз. Абслужнік, спалохана блiснуўшы на нас вачыма, хуценька паставіў паднос і з пустым келіхам у руцэ шуснуў пад стол. Праз хвілю вынырнуў назад, урачста трымаючы ў выцягнутай руцэ, прыкрыты далоняй келіх. Істота зьмярцьвела, склаўшы на грудзях лапкі, ляжала на донцы келіха і ў такт усё той-жа сьцішанай мэлодыі-пагойдваньня сьлізгалася па шкле. З келіха ледзь чуўся гук. падобны на шархаценьне ссохлага трысьнягу над возерам...

Кельнэр павясялелымі вугольчыкамі-вачанятамі зірнуў на нас, неяк па-змоўніцку падміргнуў, узяў са стала сурвэтку, адмыслова, акуратфакір, узмахнуў ёю і накрыў пасуд, абхапіў яго далонямі, хвілю так патрымаў і імгненна, як апёкшыся, адхапіў рукі. Істота, раптоўна ажыўшы, церабілася па шкле ўгару. Потым таксама раптоўна, зноў зьнерухамела — ў мутнавата-празрыстым, быццам падвойным павелічаным шкле яна выглядала амаль што манумэнтальна, нібыта фараон у грабніцы...

Расьціслаў падхапіўся з крэсла, і нечакана для свайго мяккага лірычнага голасу загаварыў, выказваючы абурэньне, гучна і рэзка. Кельнэр раптоўна зьніякавеў і, нібы той скурат на агні, пачаў мізарнець і курчыцца, ўсё больш прагінаючыся над сталом у паклоне. Потым, бы дарэшты сьціснуты, тузануўся і, як спружына, выпрастаўся і пачаў дробненька сыпаць словамі, падмацоўваючы гамонку ўзмахам вольнай левай рукі — правая дробненька ўздрыгвала і трымцела, ўчэпіста трымаючыся за абгорнуты сурвэткаю келіх. Абліча абслугача на вачах пастарэла, перасмыкнулася і сьцялося, а з вузенькай шчылінкі прымуржанай вачніцы нясьмела пасачылася і застыла на вейцы дрыготкая гаросіннка-пярлінка. Расьціслаў неяк раптоўна асекся, зьніякавеў, загаварыў разважна і ціха, выбачальна паляпаў абслужніка па паплячу і зьлёгку прыхінуў да сябе. Той палагаднеў, нясьмела ўсьміхнуўся, чамусьці нагадаўшы мне воблік раба на вядомай карціне Іванава "Зьяўленьне Хрыста народу", змахнуў рукою сьлязіну і павярнуўся ад стала, паказваючы вачыма і рукою ўглыб залі.

— Ён прапаноўвае перайсьці ў больш утульную, — Расьціслаў пасьміхнуўся, — больш бясьпечную зальку. То як? Застаёмся, ці пойдзем адсюль ?

— Ладна! — махнуў я рукою. — Застаёмся! Іраіда Сяргееўна лагодна ўсьміхнулася, згодна кіўнула галавой і мы перайшлі ў той сапраўды вельмі ўтульны закутак і добра там пасядзелі,

частуючыся адмысловымі экзатычнымі кітайскімі прысмакамі. Узяўшы па чарачцы, ад душы пасьмяяліся-парагаталі, згадаўшы ўсім нам траім добра вядомага чалавека зь Беларусі, які ўмеў і добра хлусіць, і пазіраваць, і прытварацца-перайначвацца, а вось цяпер убачыўся нам у вобразе бедалажнай тараканападобнай заморскай істоты, ізаляванай ад людзей у шкляной вязьніцы...

⁂

Напачатку, калі не падводзіць памяць, я тут згадваў пра паэтычнасьць натуры Расьціслава Завістовіча, пра яго пераклады вершатворчасьці. Дадам і пра сьлед на ніве перакладу празаічнага. Асабіста мне вядомы такі факт. Было гэта на пачатку нашай незалежнасьці. Менавіта тады адзін з самых салідных амэрыканскіх часопісаў аб'явіў для краін былога СССР конкурс на лепшыя творы. Пра гэта дачуўся наш Андрэй Федарэнка і, як мне пазьней прызнаўся ў гаворцы для "Голасу Радзімы", зусім ні на што не спадзеючыся і не прэтэндуючы, паслаў у ЗША сваё апавяданьне "Бляха". Прычым у арыгінале, гэта значыць па-беларуску.

Нават ня ведаю, якім чынам служба часопіса выйшла на Расьціслава Завістовіча, але факт: ён узяўся перакласьці Федарэнкаў твор. Ды адчуў у яго перастварэньні па-ангельску пэўныя цяжкасьці. Каб лягчэй было пераадолець іх, падключыў да працы аднаго са сваіх сыноў. Тэндэм даў плён: апавяданьне выйграла конкурс, што дало магчымасьць на той час маладому празаіку і сем'яніну істотна падмацаваць свой сямейны Бюджэт — "Каломбус" ня толькі надрукаваў, праўда, без ганарару, на сваіх старонках згаданы твор, але і набыў у аўтара правы на яго публікацыю на іншых замежных мовах. Перакладчыкі працавалі добрачынна і, само сабой, атрымалі ад прызначаньня і іх заслуг маральнае задавальненьне.

Расьціслаў Завістовіч рэгулярна і досыць часта выступаў у англамоўным (амэрыканскім) і беларускамоўным (эміграцыйным) пэрыядычным друку як публіцыст. Найбольш ахвотна ў часопісе "Беларуская Думка", які выдаецца ў Саўт Рывэры (рэдактар Міхась Кавыль, выдавец-друкар Жорж Наумчык) і "Беларускім даджэсьце", што выходзіць у Гранд Рапідсе (рэдактар-выдавец Мікола Прускі). Апошні, атрыманы мной напярэдадні Новага году нумар БД" пачынаецца артыкулам Р.Завістовіча "Беларусь і Пуцінская Расея".

Хочацца спадзявацца, што цяперашняе кіраўніцтва Беларускага Кангрэсавага камітэту Амэрыкі праявіць ініцыятыву і яе падтрымае ягонай больш дзейсная і заможная структура — Беларуска-Амэрыканскі грамдзка-культурны Цэнтр у Саўт Рывэры, які ўзначальвае ўжо згаданы тут Жорж Наумчык, і лепшае з напісанага Расьціславам Завістовічам разам з успамінамі пра яго, ды іншымі цікавымі матэрыяламі будзе выдадзена асобнай кнігай. Не сумняваюся, што ў асобе шаноўнай Іраіды Сяргееўны будучыя складзльнікі і выдаўцы будуць мець адданага, шчырага і кваліфікаванага дарадцу і супольніка працы.

⁂

Адносіны паміж мужам і жонкай, маральная атмасфэра ў сям'і Завістовічаў — тэма асобнай гаворкі. Узнавіць мікраклімат самой, бадай, важнай грамадзкай "ячэйкі" ўсебакова і пераканаўча здолеюць хібз што самі яе супольнікі, ці той, хто працяглы час быў побач. Мае-ж сустрэчы і кантактаваньне абмежаваліся ўсяго некалькімі днямі — на Бацькаўшчыне і ў далёкай Амэрыцы. Шкадую, што не давялося там пазнаёміцца з маладзейшым пакаленьнем Завістовічаў — сынамі, якія жывуць ад бацькоў асобна. Ды ўбачанае і адчутае дае падставы меркаваць, што гэта была адмысловая, ў пэўным сэнсе ідэальная сям'я, ў якой панавала шчырасьць, натуральнасьць, узаемапавага і роўнасьць.

Такое асабліва прывабна выглядае на фоне многіх нашых нібыта прыстойных і інтэлігэнтных сем'яў,

якія на вачах у людзей дэманструюць ідылію, але варта аднаму з удзельнікаў "монаспектакля" пакінуць "сцэну", як адразу-ж на абліччы зьяўляецца іншая "маска". А таму далёкае беларускае замежжа, можа быць прыкладам для нас, тутэйшых. Справа, вядома, ня ў тым, што туды перасяліліся беларусы лепшай пароды. Проста жыцьцё іх іншае, больш, як гэта мо ні дзіўна, далучана да трывалых нацыянальных, а таксама агульначалавечых хрысьціянскіх традыцый. У той час як мы тут руйнавалі, яны там будавалі цэрквы і па сьвятах ня моклі ў гарэлцы, а маліліся Богу, прамаўляючы да яго на той мове, якая даравана нам, як кожнаму народу, з Божай ласкі, а не гвалтам накінутая заваёўнікамі. Калі-ж гаварыць пра Беларусь, то на глыбокі жаль, беларуская філія Расейскай праваслаўнай царквы была і застаецца інстытутам імпэрскасьці, закліканая адлучыць беларусаў ад свайго, роднага. І ў гэтым кожны насельнік Беларусі, здольны хоць крыху разважаць і аналізаваць, пераконваецца штодня, слухаючы па дзяржаўным радыё і гледзечы па тэлебачаньні, нібыта духоўныя перадачы ад імя праваслаўнай царквы, на самай справе вельмі далёкія ад высокіх хрысьціянскіх запаветаў. Каб гэта з поўнай адказнасьцю і больлю як чалавек, ахрышчаны паводле праваслаўнай традыцыі, які, нягледзячы ні на што, не зьбіраецца мяняць сваё веравызнаньне, але глыбока перакананы, што праваслаўная царква на Бацькаўшчыне павінна вярнуцца да сваёй праўдзівай сутнасьці, да першавытокаў, стаўшы на Беларусі беларускай, наблізіцца да звычайнага чалавека з яго рэальнымі клопатамі і душэўнымі мятушэньнямі І ў гэтым сэнсе і Беларуская аўтакефальная на чале з уладыкам Мікалаем і Беларуская Праваслаўная, што знаходзіцца ў непасрэднай апецы грэчаскага патрыярха, могуць быць арыенцірамі для нас. Праваслаўная царква на чужыне духоўна ядная людзей, тут яны нібыта адна сям'я і кожны яе ўдзельнік імкнецца жыць і рабіць усё па людзку. У гэтым ці не найпершая прычына трываласьці, якая была спрадвеку ўласьціва для нашага народу, беларускай сям'і, ў якой разводы, згрызоты і сваркі — рэдкае выключэньне. Гаворачы пра высокія ісьціны, нельга пры гэтым забывацца і на грэшную штодзённасьць, на тое, што ў тым сьвеце чалавек меньш затурканы і затузаны дробнымі клопатамі, розным даставаньнем, выбіваньнем, імкненьнем зарабіць капейку, апроч сваёй асноўнай працы. Усё гэта ня толькі забірае ў чалавека час, але і псуе нэрвы, дрэнчыць і нішчыць саму чалавечую сутнасьць, што ня можа не перашкаджаць у наладжваньні годнага, асьвечанага духоўнасьцю, сямейнага жыцьця.

А як падрэзвала нашы ўзаемнаадносіны і дачыненьні, набытыя за камуністычным часам пройдзеная мараль, калі паўсюль, пачынаючы ад самых высокіх сфераў і канчаючы нізамі, была ўзаконена падвойная мараль, калі гаварылася і пісалася пра адно, а рабілася зусім іншае. Яе генератарам была "самя передавая сіла сучаснасьці" — "розум, сумленьне і гонар нашай эпохі", гэта значыць КПСС і яе праз усе часы бесхрыбетны і вернападданы сатэліт КПБ — Камуністычная партыя Беларусі, ў якіх сапраўды без іроніі высакародныя запаведзі "маральнага кодэкса будаўніка камунізму" існавалі хутчэй у якасьці своеасаблівай сцэнічнай шырмы для тых, хто меў магчымасьці браць ад жыцьця столькі, колькі яму дазваляла пасада і здольнасьці...

Ці трэба зьдзіўляцца, што пасьля развалу, а дакладней краху такой "маралі" ў грамадзтве адбылося штосьці яшчэ куды больш страшнае, жахлівае — ўжо ня тайная, не прыкрытая зьнешняй прыстойнасьцю, а дэманстратыўная і цынічная дамаралізацыя, дзе хлусьлівасьць, ашуканства, разбой набываюць усё больш пагрозьлівыя формы. Сям'я, якая павінна быць найбольш трывалым прыстанкам чалавечасьці, церпіць крах — лічба разводаў шмат дзе перавышае колькасьць шлюбаў. Ды многія і не разьведзеныя сем'і проста ліпяць па інерцыі і трымаюцца на душэўнасьці.

# Ананімная хвароба

Яўген Шпак

"Ці то вечар? Ці то раніца? Ці то?" — Ніяк ня мог толкам зразумець Саўка, як толькі праз сон на нейкі момант паспрабаваў расплэшчыць вочы. Ды як тут было зразумець, калі ў непраглядна-мутным змроку ўсё яму здалося нейкім нязвычайна маўклівым, нявыразным і няпрыемна сумным.

"Коўдру!.. Коўдру!.." — Спачатку стомлена слабым голасам, а потым усё больш патрабавальна бурчаў хлопец і, павадзіўшы рукой вакол сябе, з дрыжыкамі ў целе скручваўся ў клубок і на хвіліну засынаў.

Не, гэта быў ня сон, бо праз якую хвіліну-другую ў яго так пачыналі ляскатаць зубы, што нават і голас яго станавіўся непаслухмяна дрыжачым. Некалькі разоў Саўка зноў сіліўся адшукаць коўдру, але — дарэмна.

"Паб'ю вазоны!" — Разьюшаным голасам заявіў хлопец, калі яго рука раптоўна наткнулася на нешта, падобнае на букет кветак.

Зноў цішыня. Хлопец на хвіліну змоўк. Сваю невялічкую паўзу Саўка рашыў скарыстаць на тое, каб як лепш абмеркавць свае далейшыя, даволі рашучыя дзеяньні помсты.

"Коўдру! Я каму кажу?! Куды сьцягнула коўдру? Аглохла? Што, ня чуеш? Але-ж і ўпартая! Я табе прытварусся! Я табе!..

Пасьля ён з пагражальна-злосным выглядам на твары і, скрыгочучы зубамі, абапіраўся на локаць, павольна паднімаў уверх цяжкую галаву і, бездапаможна хістаючыся ў бакі, спрабаваў падняцца.

Напэўна, ня цяжка здагадацца, што ўсю гэтую шкоду абяцаў натварыць Саўка сваёй жонцы. Але справа ў тым, што ў той момант ён ня быў побач зь ёй у ложку, а ў нейкім чужым, густым, халодным, мокрым ад начной расы бульбяніку.

"Ага, і падушку сьпёрла", - выявіў усьлкед за тым Саўка, як толькі локцем наткнуўся на нейкія глышкі ў глебе. — "І пярыну...Я што табе?.. Я хто табе?.."

Зноў маўчаньне, зноў цішыня. У момант вока Саўка даволі спрытна ўхапіў у пяцярню добры пук, як яму здалося, парасткаў вазона і стаў моцна тузаць яго да сябе... Але корч бульбы так і не паддаўся. І толькі расьплюшчыўшы вочы, ён зразумеў у чым справа. Калі непадалёку ад сябе ён нечакана ўбачыў нейкую будову, зьнешне вельмі падобную на звычайны драўляны сьвіран, хутка пераканаўся, што гэта была вёска.

"Проньki гэта, ці Каракулічы?" — паўстала новае пытаньне, і Саўка асьцярожна, каб, барані Божа, не згубіць адзіны арыентыр, прышчураным вокам азіраючыся на будову, стаў падымацца... Гулка выдыхнуўшы паветра, вядомым стылем "ракам" павольна і ўпэўнена ўздоўж баразны рушыў уперад...

"Я табе зараз стрэльну! — праз некаторы час зноў на некага лаяўся Саўка. — "Ня доўга тут табе... засталося. Зараз будзе табе "капут"!.. Я табе вантробы!..."

Каўзануўшыся разы са са два, ён стаў на ногі...

"Будзеш ведаць "хэндэ хох", я табе пакажу, партызан здавайся! Зараз..."

Сяк-так выбраўшыся з бульбяных джунгляў і набліжыўся да свайго арыентыра, яму на нейкі момант здалося, што перад ім знаходзіўся не вясковы хлеў, а смы натуральны варожы дзот, амбразурай якога было вакно для выкіданьня гною. Акрамя таго, яму здалося, што менавіта адтуль вялася няспынная страляніна...

"Пачакай, пачакай, я табе зараз "хэндэхохну!" - прамовіў пра сябе Саўка і моцна, быццам сапраўдную "лімонку", сьціскаючы ў руцэ ладную бульбіну, крыху прыгнуўшыся, адважна рушыў на "ворага".

"Му-у-у!" — з мінорнай меладычнасьцю данеслася з "амбразуры" якраз у той момант, калі Саўка гатоў быў запусьціць туды "лімонку".

" Му-у-у! — тут Саўка асьляпнеў...
"Мускат?.. Давай на ўсё!.."
"Чаму па дзьве?"
"Ты сама набралася..."
"Вызывай!.. Надта спужаўся..."
"Му-у-у!..."
"Во, сама слова ня выгаварыць...
Вызывай!.."

"Каго?"

Дзе гэта я? У якой-жа цікава вёсцы? — раптоўна прачнуўшыся на сьвітаньні і разгублена пазіраючы то на жардзіны з космамі нізка абвісшага над ім сена, то на вялізарнага аплавухага парасюка з кароткай шчоткай шчаціны на шырокім пакатым карку, зьбянтэжана разважаў пра сябе Саўка, баючыся нават паварушыцца ў кучы саломы.. . "Чый гэта хлеў?"

Знайсьці адразу адказ на гэтыя пытаньні па нямудрагелістаму інтэр'еру і няпрыветліваму рэхканьню чымсьці недазаволенага япрука было няпроста, і таму ён вымушаны быў уважліва прыслухоўвацца да ўсяго таго, што хоць трохі знаёмае магло-б данесьціся да яго з вуліцы. Ня гледзячы на тое, што праз вузкія шчыліны і пустыя вочкі ад вылецеўшых сукоў із дошак старых дзьвярэй яшчэ скупа прабіваліся промні сонца новага дня, ўнутры будовы ўжо было адносна сьветла, і таму ўжо добра можна было разгледзець у баку хлева адсек з пухлымі ягнятамі і насьцярожанна-ўважлівымі авечкамі; і маўклівы, абыякава-сумны позірк у сьвятле ваканіцы каровы, якая ляжала на баку з прыўзьнятай галавой на сьвежай саламянай падсьцілцы, і жвава разгойсаўшыся ў вісячых на сьцяне клетках шустрых і гарэзьлівых трусянят. Адным слова, акружэньне Саўкі, як і настрой, у тую раньнюю часіну было даволі ціхім і нічым не засмучаным. Але гэта было толькі на першы пагляд і працягвалася толькі да таго моманту, калі Саўка рашыў падняцца. Варта было яму абаперціся на локаць, як ён тут-жа адчуў нявыносныя болі па ўсяму целу.

"Ну, галава, — вядомая справа, — разважаў у думках сам з сабою бедалага. А ногі? А цела? Ні рукой табе ні шыяй павярнуць... А грдзі? Рэбры, як патрушчаныя на шчэпкі, аж трашчаць, Ні кашлянуць, ні ўздыхнуць... І жывот рэжа, млее і гарыць, быццам чым каляным пацёрты; і сьпіна, як пасьля бізуноў. Ды ўсё аж да пят і сьвярбіць, і зудзіць, і прэе. Але-ж і млосна! Але-ж і моташна! Не, ніколі-ж такога ня былоА галава? Быццам хто ўзьдзябурыў сталісты абруч, аж вочы на лоб выпірае. Няўжо канцы?"

Потым Саўка пачынаў у думках блытана перабіраць падзеі ўчарашняга дня. Напаміналася пра тое, як ён яшчэ з раніцы арганізаваў у брыгадзе мэханізатараў складчыну на выпівон, як папаў у Пронькі, як там даволі ваяўніча і пасьпяхова разам з хэўрай дужых біцюкоў штурмаваў амбразуру "гандэлка", як набраў сетку віна,як вяртаўся дахаты, як спыніўся ў прыдарожным хмязьніку на адзін прывал, на другі А потым?.. Вось пра тое, што зь ім было потым, чамусьці Саўку ўспомніць не хацелася. Тут яго аж кальнула ў мазгі, бо пра тое, як ён разьлічыўся са сваімі заказчыкамі і нават, ці адбылося зь імі спатканьне, ён зусім нічога ня помніў. Але не такі быў Саўка чалавек, каб доўга перажываць такую драбязную непрыемнасьць, хаця, праўда, і раней здаралася, што цярпець тумакі, а другое — корчыцца і паміраць не вядома із-за чаго і каго ў страшэнных пакутах. Неяк гаротна, як на разьвітаньне з жыцьцём, паспачуваў сабе Саўка. І тут яму нечакана ад крыўды і ад злосьці захацелася абвінаваціць усіх тых, хто хітра заўсёды карыстаўся яго паслугай. Абвінаваціць менавіта ў тым, што з-за іх яму прыходзіцца ў пошуках гарэлкі днямі бадзяцца, як дурню, па акрузе і не вядома з якой-такой ласкі душыцца ў дзікіх чэргах. "Самі, нябось, працуюць, грошы зарабляюць, аты ім, як той парабак..."

"Ку-ка-рэ-ку!" — наўсю моц, натужна пракрычаў певень на двары і гэтым крыху прыўзьняў сапсаваны невядомай хваробай зусім кепскі настрой Саўкі.

"Каракулічы! — з палёгкай уздыхнуўшы з пачуцьцём душэўнага задавальненьня, ціха прамовіў хлопец і тут-жа адчуў у сабе прыкметны прыліў бадзёрысьці. Тэклін гарлапан! Як і гаспадыня."

"Ку-ка-рэ-кхру! — зноў паўтарыў Тэклін сіпаты сьпявак сваё пятушынае арпэджыё, чацьвёрты гук якога заўсёды рэзка абрываўся і пераходзіў на хрып. — Ку-ка-рэ-кхру!..."

Праз некаторы час, калі Саўка паспрабаваў яшчэ падняцца, жудасная думка яшчэ больш усхвалявала яго. А калі ён адхінуў кашулю і толькі ўбачыў увесь скрамсаны пісюгамі жывот, хусім перапалохаўся.

"Няўжо гэта ад саломы? — стаў разглядаць ён першае пытаньне і тут-жа ў думках спрачацца з сабой. —А можа, юзаваў дзе па зямлі, ці то дзе праз які плот няўдала пералазіў? А кашаль? І ламота ў касьцях... І млосна. Можа, дзе паспаў? Дык да гэтага-ж ніякая халера ніколі ня бралаА цела? Аж ня вытрымаць, як гарыць і скуру круціць, быццам хто смаліць. Можа, напякло крапівай? Дык, як-жа, калі не разьдзяваўся ? А сьвярбіць чаму? Можа, рудыя мурашы дзе апанавалі? А, можа, якія кляшчы? А што, каліякая гадзюка? Але, мусіць, не. Ад гадзюкі-б у адным месцы раздула, альбо пачырванела-б.А жывот? Няўжо-ж віно якое нядобраякаснае, ці, можа, так яшчэ што?.."

Перабіраючы папарадку розныя вэрсіі, Саўка дайшоў да таго, што ўзяў на падазрэньне таксама і свайго лапавухага суседа, яд якога на адлегласьці трох крокаў меў рэальную магчымасьць перабрацца і сьвінячы трахіноз. А між тым хворая фантазія Саўкі набірала ход і не затрымлівалася на месцы.

"Ня больш нідзе, як толькі ў чарзе ён. мусіць, падхапіў ні што іншае, як гэту "чуму ХХ-га стагодзьдзя". — Канцы! — і цела Саўкі пранялі халодныя дрыжачкі. — Напэўна, ад таго. што ўсё хрыпеў і хрыпеў, нешта раз-поразглытаючы? А, можа, той аднавокі са скульлямі на шыі А, можа, той з пасінелым носам і касталявымі плячукамі?.. А ці ня баба з баксёрскім носам і падбітым вокам, што ўсё пінчыла цыгару, кахукала, як у кадушку, імацярылася? Пэўна, той з карасьлівымі вушамі, што ўсё глытаў сьліну і аблізваўся на бутэлькі? Турыста-жа ня было. Пэўна, ён... Прыбіць яго мала..."

"Ку-ка-рэ-кху!" — прагучала ў двары, а затым там-жа бразнула вядро, і хворы Саўка гарматным снарадам выляцеў з хлева праз тую-ж самую адтуліну, у якой было застраў у начы.

І ўсё такі, як -бы ня было, невядомая хвароба не на жарт прыціснула хлопца. Крыху пастаяўшы за вуглом будовы, Саўка аддыхаўся, сяк-так са страшэннымі мукамі паправіў на сабе вопратку, атросься ад саломы і ледзь чутна, крадучыся ад людзей, выйшаў на вуліцу, зьнешне нагадваючы сабой старога і кволага дзеда Імполюса, павольна і ціха пашыбаваў праз вёску. Не паміраць-жа сабакам пад хлевам.

Сьвітала. Недзе ў баку могілак пракаркала варона і брыдкім голасам ускалыхнула ў стомленай галаве Саўкі нядобрыя думкі. Потым то тут, то там, быццам навыперадкі, крыкліва загаласілі пеўні. Ад іх галасоў жахлівы настрой Саўкі яшчэ больш узмацніўся. Шмат аб чым думалася яму ў тыя хвіліны хваляваньня, але больш усяго яму хацелася правельна разгадаць розныя прыметы, якіх, на той грэх, сустракалася на яго шляху цэлая процьма. Па-першае, вельмі насьцярожыла яго тое, што за ўвесь час, колькі ён ішоў да двароў, дзе ўжо даўно прачнуліся руплівыя гаспадары, чамусьці ні разу не забрахала нават самая злосная і чульлівая да чужых сабака. Пасьля ў адным месцы нечакана і, што асабліва рэдка бывае, дарогу яму спакойна, без усялякага страху, перабег чорны шашок. Тут Саўка на нейкі момант разгубіўся, але, калі прыйшоў у сябе, то ўсё такі па народнаму павер'ю на ўсякі выпадак пасьпеў у сьлед яму адпусьціць левай рукой тры ёмкія хвігі. Тое, што ён пасьпеў гэта зрабіць, як-ніяк ужо трохі суцяшала яго. Але-ж, каб на гэтым усё і кончылася... Наступным і асабліва непрыемным выпрабаваньнем для Саўкі, была зязюля, якая таксама ні з таго, ні з сяго раптоўна падала з лесу голас. Не пасьпеў Саўка загадаць, як тая тут-жа і заткнулася. Што будзеш у такім крыўджаным выпадкудумаць? Толькі і лічы, што твая песенька сьпета. Што і казаць? Як ня шэньціць, так ня шэньціць і адна бяда ня ходзіць. Мала таго, што тры разы бабы, ідучы ў лес па грыбы, з парожнымі кошыкамі і вёдрамі дарогу пераходзілі, дык і сам, пасьпешліва хаваючыся ад іх, на правую нагу спатыкнуўся ды яшчэ кашулю парваў. Але самая галоўная недарэчнасьць заключалася ў тым, што Саўка нічога ня ведаў, як яму быць з яго адзіным

сродкам абароны — хвігамі?.. І таму, каб ненарокам не зрабіць што наадварот, свой, даўно падрыхтаваны "кукіш", які ён, ідучы, ўвесь час трымаў нагатове, прышлося хутка схаваць за зад. І правідлова.

Пры падыходзе да хаты, што стаяла на ўскраіне вёскі, дзе нядаўна пасяліўся новы, здалёк прыехаўшы чалавек, у Саўкі адбылося яшчэ адно спатканьне. Там, недзе на выгане ў рэдкім лазьняку, мусіць, нечакана пачуўшы паяўленьне чалавека, бадзёра заіржаў, запырхаў, а потым загрукатаў капытамі і тут-жа зьявіўся на паляне стрыножаны конь. Здаровы, стройны і ў меру упітаны буланы, хоць і спутаны, але ўсё-ж даволі ганарова стаяў на лугу і з маўклівай ветлівасьцю і хвалюючым кроў нецярпеньнем чакаў радаснай хвіліны свайго вызваленьня з ланцугоў. На нейкі момант дух захапіла ў Саўкі пры чаканьні той знаёмай, але заўсёды непаўторнай і прываблівай прыгажосьці. Стоячы ў аняменьні, ён не заўважыў таго, як на яго скронь ад жалю выкацілася буйная сьляза, як павольна распусьцілася ў яго руцэ яго адзіная абаронца, чароўная дуля. Ведама-ж, не адну чарку гарэлкі давялося выпіць Саўку на хаўтурах за паслугі аднавяскоўцам. "Во, ў каго ніколі ня псуецца здароўе", — з зайздросьцю падумаў Саўка пра жвавага рысака і, ціха ўздыхнуўшы, павольна асьцярожна пайшоў далей.

Праз некалькі хвілін Саўка ўжо быў ля дому, дзе жыў патрэбны яму чалавек. Перад тым, як сустрэцца зь ім, ён загадзя падумаў пра тое, як яму трэба будзе паводзіцца з ім, каб той часам не адмовіў яму ў дапамозе. Дзеля посьпеху справы Саўка рашыў пазьбегнуць уласнай яму фамільярнай хамаватасьці, якой заўсёды карыстаўся ён з усімі без разбору людзьмі. Во што робіць хвароба: хочаш, ня хочаш, а мусіш быць прадбачліва-культурным. Ці ня праўда? Карысная свомасьць?

— Ты, брат, як з якога поля бою — ўпусьціўшы бедалагу ў хату, без зьдзіўленьня якое ўласьціва толькі вопытным практыкам мэдыцыны, незадаволена заўважыў Суржык.

— Бяда, таварыш фельдшар!.. Хачу вас прасіць... Можа, вы чым паможаце?.. Каліласка!.. Я ўжо...

— Ну, што ты раскіс? — па мужчынскі груба падтрымаў канчаткова зломлены дух хлопца Суржык. — Якая можа быць бяда, калі жывы!? Раз жывы, то ёсьць усе падставы спадзявацца на лепшае... Супакойся!..

Не, ў той момант у мізэрнай істоце Саўкі мядзьведзя ня было і блізка: гэты сталы дзяцюк упершыню ў сваім жыцьці сур'ёзна захварэў і таму думаў, што ў арміі званьні фельдшар і фельдмаршал бываюць толькі ў афіцэраў найвышэйшага рангу. Сапраўды Суржык у арміі быў у свой час фельдшарам, а Саўка аб гэтым аднекуль даведаўся. Такім чынам, аўтарытэт Суржыка ў сумных вачах Саўкі быў бясспрэчным, і доктару палявой мэдыцыны нічога не заставалася рабіць, як толькі на адпаведным узроўні падтрымліваць сваю ганаровую марку.

— Можа ў ця... Гм-гм... Можа ў вас, таварыш фельдшар, мо які настой у хаце маецца? — крыху асвоіўшыся, нясьмела запытаў Саўка. — Вы тут у нас травы зьбіраеце. Калі можна, дык будзьце добры...

— Чаму-ж не? Толькі перш за ўсё табе трэба наташчак здаць аналіз. Зараз-жа, пакуль ты яшчэ нічога ня еў, пойдзеш і прынясеш сюды ў чыстай бутэльцы. Шмат ня трэба, ў пляшцы з-пад чакушкі. Ты разумееш, аб чым я гавару?.. А настой... Гэта мы зараз...

У тую-ж хвіліну, важна пабарабаніўшы двумя пальцамі па краю стала, Суржык з важным і задумёным выглядам перайшоў у другі пакой. А ў хуткім часе забраскацела нейкая пасуда і забулькатала вадкасьць.

"Малады, а вунь бач, як дaслужыўся! Ня тое, што які прапар, — з павагай падумаў пра Суржыка Саўка. — Вядома-ж, здольны чалавек. Але-ж і пашанцавала..."

Каб завесьці гісторыю хваробы, Суржык пачаў з апытаньня. Перад зычлівым доктарам Саўка быў, як ні перад кім і ніколі, шчырым.

— Было трохі... Хлопцы палучку атрымалі, дык папрасілі дастаць... Як адкажаш? Нехаця прышлося... Дык, як там у ця... у вас наконт настою?

К вялікаму задавальненьню Саўкі настой ужо быў гатовы. Настой на агурках. Цэлы кубак. У народнай мэдыцыне той лекавы састаў называецца, здаецца, проста "расол".

Ад чымсьці прыпраўленага і падсалоджанага крыху расолу язык, дагэтуль шурпаты, ўжо не стаяў у роце колам, ня смажыла і нават у галаве значна пасьвятлела. Але, вось, што датычыцца сакрэтнасьці Саўкінага візіту, то тут яму яўна не пашанцавала.

Вечарам, як і было дамоўлена, калі Саўка пайшоў да Суржука, аналізы ўжо былі гатовы.

— Хоць і няма ў мяне асабліва часу з табой валындацца, — з лянотай прамовіў праз квадрат белай марлі на роце Суржык і з глыбокім уздыхам дадаў: — Што-ж зробіш? Не магу-ж я парушаць сьвяты абавязак урача нават, рызыкуючы сваім жыцьцём, — да апошніх сіл дапамагаць хвораму.

Сэрца Саўкі імгненна закалацілася, ногі падкасіліся, калі ён ужо гатоў быў рухнуць на падлогу, той-жа голас і супакоіў яго:

— Ня меньш тыдня прыйдзецца табе правесьці ў поўнай ізаляцыі, — з прыдзірлівым позіркам папярэдзіў Суржык.

— Я і на большае быў-бы згодзен, — хутка запэўніў Суржыка Саўка. — Што ні скажа... це.

— А як з лістом непрацаздольнасьці? Ты-ж ведаеш...

— А навошта ён мне? Калі... — Тут Саўка асекся.

— Ну, калі так, то давай паважна дамовімся... Гм-гм. Не хапала яшчэ, каб і ты каго... Гм-гм. — Суржык для надзейнасьці і ў трэйці раз паправіў павязку на роце.

— Я на ўсё згодзен. Толькі дапаможэце... — і з дзіцячай зацікаўленасьцю стаў уважліва сачыць, як Суржык майстраваў двухрупарны слухавы апарат...

— Тады прыступім! — прамовіў Суржык. Саўка, не разважаючы ні аб чым, у той-жа момант ухапіўся за каўнер кашулі...

— Гэта я да вас, шаноўны Канстанцін Панцялеявіч. — раптоўна раздаўся за вакном ласкавы жаночы голас. — Ці то можна да Вас? Прымяце сваю артыстку?

Ад нечаканасьці ў Саўкі аж заклініла суставы ў плячах. Але ён хутка схамянуўся і, ня гледзячы на ламоту ў нагах, у момант вока апынуўся за печчу.

— Праходзьце, праходзьце, паважаная Ванда Казімераўна. Чаму-ж ня можжна? Будзем Вам рады.

— А што гэта вы, сусед, перавязаліся? — зьдзівілася баба Ванда, нібы то спалохаўшыся. — Што гэта вы, як тыя бабы пры ядахімікатах, прынарадзіліся ў халат? Пэўна?..

— Так-так. — не адразу знайшоўся, што сказаць Суржык. — Ды ведаеце... тут у мяне. Як вам сказаць?.. Адным словам, тут у мяне і сапраўды нешта падобнае: хачу ад "насякомых" сад адпрацаваць...

"Ну, малайчына! — пахваліў у думках знаходлівасьць Суржыка Саўка і панадзейней зашыўся ў завугольле. — А гэту квактуху якая бура прынесла?"

— Дык я да вас на рэпэтыцыю. — уладкаваўшыся на лаўцы каля стала, бойка сказала баба Ванда. — Мусіць, першая з нашага фальклёру прыйшла? Дома ўправілася, час маю, можна і сьпяваць.

— Не хапала таго, каб ты яшчэ тут загаласіла на маю галаву. — буркнуў пра сябе Саўка.

— Ах, так, у нас-жа хутка рэпэтыцыя. — нібы то спахапіўся Суржык, глянуўшы на гадзіньнік, які стаяў на этажэрцы. — Як час бяжыць!

— То ўжо прабачце маю назойлівасьць, але мне здаецца, што ў вас у хаце нечым, "прасьціце за выражэньне", нядобрым пахне. Нашто ўжо ад казла няпрыемна, а тут мадней!..

— Магчма, гэта садовыя растворы маюць які пах, спэцыфічны?..

"Ну, малайчына! — пахваліў ізноў Саўка Суржыка за кемлівасьць. — з такім не прападзеш!"

— Не, не! — З шумам уцягнуўшы ў сябе паветра і брыдка скрывіўшыся, не згадзілася з Суржыкам жанчына. — Што ні кажэце, але ўсё-ж добра чую: ў хаце нейкай падлай сьмярдзіць. Мой нос не падманіш. Можа, дзе які пацук пад падлогай, альбо пад печчу засьмярдзеўся. Тады другая справа.

У тую хвіліну Суржык ужо ледзь стрымліваў сябе ад сьмеху і, баючыся таго, каб ненарокам на ўсю моц не зарагатаць, быў вымушаны не сьпяшацца з адказам.

"Ты сама ўжо"... Незадаволена прашыпеў Саўка.

— І сапраўды, трэба праверыць хату, — згадзіўся з заўвагай бабы Ванды Суржык і, адхінуўшы фіранку, адчыніў вакно.

— Добры вечар! — праз якую хвіліну пачулася са двара. — Я не спазьнілася?

"Во, яшчэ адна салістка цягнецца. — зноў незадаволена буркнуў пра сябе Саўка, безпамылкова пазнаўшы гаворку бабы Зуні. — Галасістая! Любога перакрычыць?

Хутка ў хаце было ўжо поўна людзей. Паслухаць, як жанкі будуць сьпяваць, прыйшло некалькі мужчын, сярод якіх быў і крыху глухаваты дзед Імполюс, а таксама некалькі малых дзяцей, якім было ня меньш цікава пачуць, як іх старыя бабулькі будуць рыхтавацца да канцэрту ў клубе. Настрой у фальклёрнай групы быў добры, лірычна надзвычай прыўзьняты і таму, як толькі Суржык узяў у рукі акардыён і ўзяў на ім некалькі акордаў, пажаданьням, якую засьпяваць песьню ня было канца. Жанчыны наперабой успаміналі шматлікія старадаўнія песьні і, часам крыху спрачаючыся наконт пасьлядоўнасьці куплетаў, з вялікай ахвотай нязвычайным натхненьнем, ужо згодна і ўпэўнена з уласьцівай ім сьціпласьцю, па адной заводзілі напеўныя і прыгожыя народныя мэлодыі.

"Ну, ўсё. Пачалося. На гадзіну завялі! — незадаволена бурчаў крытык, мышшу затаіўшыся за печчу. — Колькі-ж цікава, гэтая іх філармонія будзе працягвацца?"

— А ці чулі вы, Канстанцін Панцялеявіч, гэтакую? — адразу-ж пасьля першай песьні апярэдзіла ўсіх прапановай баба Ванда і, неяк задумёна ўставіўшыся вачыма ў столь, высокім фальцэтам на поўны голас завяла: "А той пяты, п'яніца праклятьі... Гм... Ён не хацеў мяне браць".

"Дадумалася-ж салістка! — асьцярожна прысеўшы на кортачкі ў куце, пра сябе заўважыў Саўка. — Пэўна адной песьні на паўвечара хопіць... Во, брат, палівае! І пра смурод забылася."

Ня гледячы на тое, што баба Ванда ад хваляваньня крыху і пераблытала словы, што зразумела, выклікала лёгкі сьмяшок добразычлівых слухачоў, але на гэтым усім вядомая песьня ня скончылася, а была падхоплена другімі галасамі. І песьня хутка набрала сілу.

Ужо ў першую рэпэтыцыю можна было спадзявацца, што ўжо ў хуткім часе атрымаецца неблагі калектыў сьпевакоў.

"Атрымаецца, атрымаецца! — зьедліва згаджаўся са старымі людзьмі за печчу Саўка, пра сябе на чым сьвет стаіць праклінаючы кожны нумар будучага канцэрта. — І калі-ж гэттая багадзельня кончыцца?!"

Але ня суджана было хутка скончыцца нясьцерпным пакутам Саўкі: неўзабаве быў аб'яўлены перапынак...

Выдавец: Беларускае Выдавецкае Таварыства: МІХАСЬ КАВЫЛЬ — старшыня, МІХАСЬ СЕНЬКА — сакратар СЬЦЯПАН НАУМЧЫК — скарбнік.
Рэдакцыйная калегія: Рэдактар: МІХАСЬ КАВЫЛЬ. Сябры Рэдкалегіі: МІХАСЬ БАХАР, УЛАДЗІМЕР БРЫЛЕЎСКІ, МІХАСЬ СЕНЬКА, ВІТАЛІ ЦЯРПІЦКІ. Друкуецца ў друкарні — "Belarusian Press".
Друкар — Жорж Наумчык.

# Хітрыкі Марфы

Сымон Шаўцоў

Гэта было ў 1981 годзе. У вёсцы Навікі жылі Рыгор і Марта Хатулёвы. Яны мелі двух сыноў. Старэйшаму Язэпу было 26 гадоў, а яго брату Давыду пайшоў 22-гі год. Язэп быў клышаногі, касавокі, крываbooты ды шапялявы. Давыд быў прыгожы тварам, стройны постацю і гаварыў мяккай прыгожай беларускай мовай. Язэп, каб паставіць поплеч з Казімодам, які апісаны ў "Нотрэ даме" В.Гогаля, то цяжка было-б сказаць, хто зь іх прыгажэйшы. Бацькі абодвых любілі, бо гэта іх дзеці. Але маці больш любіла Давыда. Язэпа больш шкадавалі, чым любілі, бо ад прыроды ён быў такі няўдалы.

Язэп хацеў ажаніцца, але ні адна дзяўчына, ні адна ўдава, аніводная кабета не хацела зьвязаць зь ім сваё жыцьцё. Хатулёвы ня былі так багаты, каб якая кабета ахвяравала сябе Язэпу радзі багацтва. Давыд быў вельмі прыстойны і таму бацькі спадзяваліся засватаць яму дзяўчыну з вялікім пасагам. На Давыда заглядаліся ўсе дзеўкі ды "вешаліся яму на шыю". Кожная хацела-б стаць яго жонкай. Рыгор і Марфа вельмі гаравалі за няўдалага Язэпа. Як яму дапамагчы ажаніцца? Думка гэтая не пакідала Марфу. Вось да чаго дадумалася хітрая Марфа. Яна свой плян паведаміла Рыгору, Язэпу і Давыду. Хатулёвы парашылі засватаць прыгожую Алесю з беднай сям'і за Давыда, а да вянца ў царкве падставіць Язэпа. Нельга ды грэшна будзе Алесі саступіць з коўдрыка, на які яна стане пад вянец, і адхіліць дыядэму, якую будуць трымаць над галавой, калі бацюшка пачне зачытваць словы з Сьвятога Эвангельля. Сьвятар хутка абвянчае, Алеся і не апомніцца, а тады ўсё пойдзе, як і трэба. Язэп і Давыд былі адзетыя, як і належыць пад-вянец. Брат брату будзе дружка-шафёр. Дамовіліся а сьвятару, што яму добра заплацяць за гэтае вянчаньне. Маладая, як пацалуе крыж, што паднясе бацюшка, то тады хоча-няхоча, а будзе законнай абвянчанай жонкай Язэпа.

Да маладой падышлі два браты разам. Поплеч Алесі стаў Давыд, а Язэп па за яго плячыма.

Як толькі падыйшоў сьвятар са Сьвятым Эвангельлем ды пачаў чытаць ды над галавой трымалі кароны, то Давэд і Язэп памяняліся местамі. Сьвятар хутка забарматаў мясьціны са Сьвятой кнігі. Алеся, як убачыла, што поплеч яе стаіць не Давыд, а Язэп, яна залілася сьлязамі ды заплакала наўзрыд. Яна ня ведала, што ёй рабіць... Набожная, яна верыла, што грэшна ў такі час саступаць ды ўцячы з царквы. Ёй хацелася закрычаць: "Ратуйце". Ды яна анямела. Давыд, нібы ўсё адбываецца, як трэба, трымаў дыядэму над галавой Язэпа. Трымалі дыядэму і над галавой Алесі. Ня ўсе прысутныя заўважылі, як і што адбылося пры вянчаньні. Але, чаму маладая плача наўзрыд, калі трэба было быць раднасай.

Цырымонія вянчаньня адбылася так хутка, як ніколі раней. Гэта было ўсім на зьдзіўленьне. Сьвятар хутка пайшоў за "царскія варота". Язэп узяў Алесю пад руку і паклыпаў да выхаду. Алеся ўся ў сьлязах ледзь ішла, хістаючыся, нібы п'яная. Народ расступаўся, каб даць дарогу маладажонам да выхаду. На царковішчы маладых абсыпалі зярнятамі збожжа, каб былі багатымі і шчасьлівымі.

За сталом Алеся сядзела разам з Язэпам ды думала, каб ёй цяпер спраўлялі хаўтуры, а не вясельле. Яна была вельмі засмучаная. Яна кахала Давыда і за яго была засватаная, а ён здрадзіў ёй і падставіў свайго брата Язэпа. Калі паднімалі кілішкі гарэлкі ды казалі да маладых: "Горка", то Алеся ізноў зарыдала. Ёй сапраўды было горка. Калі Язэп памкнуўся, каб яе пацалаваць, Алеся адвярнулася. Скора з хаты маладой паехалі гуляць у хату Хатулёвых. Рыгор і Марфа былі задаволеныя, што ім удалося зрабіць гэтыя хітрошчы. "Цяпер Алеся ў нашым доме, зжывецца, зьлюбіцца". Алеся заявіла сьвякрусе і сьвёкру, што яна ляжа спаць толькі з Давыдам, бо яна была зь ім заручаная. Калі яе будуць

прымушаць пайсьці ў ложак з Язэпам, яна прарэжа сабе горла, або павесіцца на суку таго дуба, што расьце каля хаты.

Вось тут заскрэблі патыліцу Рыгор і Марфа. Як быць далей, што прыдумаць, каб угаварыць Алесю... Давыд можа засватаць багатую з вялікім пасадам. Ён ня хоча яшчэ жаніцца. Нашто-ж яму, хоць і прыгожая, але бедная Алеся? Алеся была вельмі абураная і скардзілася, што ёй у царкве падставілі "пастку", не баючыся Бога. "Хіба ў царкве няма Бога, што і бацюшка вянчаў, не папытаўся ў мяне, чаго я плачу..."

Марфа ўгаварыла Язэпа, каб ён лёг асобна ў гэтую першую ноч, а Давыд хай ляжа з Алесяй. Потым Алеся асьцепаніцца і пачне зь ім спаць. Алеся абвясьціла сьвякрусе і сьвёкру, што ніколі ня ляжа з Язэпам.

Прайшоў дзень, два і тры. Алеся лажыцца спаць толькі з Давыдам. Марфа прыдумала адаслаць Давыда далёка да сваe радні, каб там пажыў колькі тыдняў. Алеся тады пачне спаць з Язэпам. Язэп ня мог дачакацца, калі-ж яго жонка пачне спаць з ім.

Калі Давыд зьнік і не паявіўся вечарам. Алеся пайшла начаваць да сваіх бацькоў. Яна паведаміла, што калі прыйдзе Давыд, тады і яна прыйдзе назад.

Давыд не прыходзіў тыдзень, другі, трэйці. Прайшло два месяцы. Алеся жыла ў хаце сваіх бацькоў. Колькі ні ўпрошвалі яе, каб яна вярнулася да свайго абвянчанага мужа, але яна абвясьціла, што ніколі ня стане жыць з Язэпам.

На вёсцы загаварылі, што нявеста Хатулёвых пайшла ад іх "у прочкі", не пажыла там і аднаго тыдня.

Так прайшло шмат месяцаў. Давыд не прыходзіў. Алеся гаравала, схудзела, не паяўлялася на вуліцы. Язэп стаў яшчэ больш шапялявіць і заікацца.

Раніцаю ўбачылі сяляне на суку дуба Язэпа. Ён павесіўся. Калі вымалі яго з пятлі, то быў ужо халодны. Выглядаў вельмі страшным. Пахавалі яго вельмі хутка без сьвятара на абочыне могілак, дзе хаваюць самагубцаў. На сяле казалі: "Бог прыбраў грэшніка. Як такому жыць, дык лепей памерці".

Давыд не паяўляўся. Прайшло тры гады. Ніхто ня ведаў, дзе падзеўся Давыд. Алеся стала жыць удавою ў хаце сваіх бацькоў. Пасьля тугі і роспачы яна пачала ізноў прыгажэць. Да яе прысылалі многа сватоў із свае і другіх вёсак, але яна ўсім адказвала, што застаецца адзінокаю. Яна толькі шкадавала, што савецкая ўлада забараніла манастыры, а то яна пайшла-б туды, каб там дачакацца свае сьмерці. Часам яна прыходзіла ў царкву, дзе яе вянчалі, каб паплакаць, а не маліцца.

Давыд не зьяўляўся. Ніхто ня ведаў, дзе ён.

Прайшлі гады. Алеся стала старою. Сваё жыцьцё праводзіла за штодзённай цяжкай працай...

**************************************************************

<u>*Міхась Кавыль*</u>

## <u>Думка аптымістаў</u>

"Гайджэкеры"-самазабойцы,
Выхаванцы бен Ладзена,
Раны "блізьнятаў" Нью Ёрку загояцца,
А вам адплата будзе дадзена.

СГЦ, пэнтагону трагэдыя —
Вынік мірнай нечаканасьці...
О, ніхто такіх жахаў нш ведае
У гістарычнай беззаганнасьці!

Не яўляюся я пэсымістам,
Разьдзяляю думку аптымістаў:
Ні ў чуме, ні ў сібірскай язьве
Амэрыка бязвылезна ня ўвязьне,
Акты тэрарыстычнага разгула
Захлянуцца ў крыві Кабула,
І Першы тэрарыст Асама,
Што пасеяў, пажне тое самае...

**14 верасьня 2001 г.**

*СГЦ — Сусьветны Гандлёвы Цэнтар.

*
**

*Міхась Кавыль*

Калі народ давёў да нуля
Грузін, хітры, —
Людзі праклялі круцеля,
Віталі Гітлера...
Ня ўсе празаізм
Праўды келіх выпілі:

Фашызм і камунізм —
Той-жа самы сіфіліс.
Будзьма самі спонсарамі
Сваіх дзеяў бясьпечнасьці,
Бо ніякія дыспансары
Не гарантыя даўгавечнасьці.

Занядбайма жаданьне
Званьняў, сумаў, не нумараваных,
Бо з усімі і ўсім разьвітаньне
Богам нам гарантавана.

22 ліпеня, 2001 г.

****************************************

*
**

*Генадзь Бураўкін*

Вы мяне не клічце, не завіце
У заакіянскі край прыгожы.
Я ня буду, як былінны віцязь,
Доўга разважаць на раздарожжы.

Так ужо мне вызначана лёсам,
Так мне ня зямлі наканавана,
Што ня трэба казачных дзівосаў,
Цёплага, чужога акіяна.

У мяне даўно адна дарога
Вызначана памяцьцю бяссоннай —
Да кутка азёрнага, ляснога,
Дзе мае зялёныя Расоны.

Я прыду ссівелым і стамлёным
Да маёй любімай Беларусі,
Паздароўкаюся з кожным клёнам,
З кожнаю бярозкай абдымуся.

****************************************

*
**

Ці дапаможа нам Расія
На сьвеце не пайсьці з сумой,
Калі ў самой слабеюць сілы
І ласкі хочацца самой?

Няўжо мы гэтакія зломкі,
Што не разгонім каламуць
І нашы продкі і патомкі
Нас за няздатнасьць
праклянуць.

Няўжо мы паддадзімся зьдзеку!
І прададзім,
Як бабылі,
Усё,
Што Бог нам даў спрадвеку,
Усё,
Што самі здабылі?

Навошта хочацца камусьці,
Каб не вярнуліся назад
І праляцелі міма гусі
Паўзьверх рабінавых прысад,
Каб наддзвінскага сяла,

І моўчкі высахла Палесьсе,
І Нарач бросьняй зарасла?

Дзеля чаго тупая здрада
Цішком крадзецца з-за хлявоў?
Няўжо Расея будзе рада
Займець бяздарных халуёў ?

Няўжо ў пачвары двухгаловай
На нас раскрыты кіпцюры
І ўсе
Крывёй і мовай
Мы захлынёмся без пары,
А на рамонкавым абшары,
Дзе магілкі між сасьнякоў,
Пір будуць ладзіць янычары
У чорным чадзе шашлыкоў?

Усім,
Вусатым і бязвусым,
Крычу я ім,
Як на крыжы:
"Ну дайце-ж,
Дайце беларусам
Сваёю хатаю пажыць!"

****************************************

*
**

Ну што, Беларусь, у цябе за сыны? —
Хто быў паштаром,
Плугаром
Ці падпаскам,
Як толькі праб'ецца трохі ў чыны,
Забыць цябе лічыць сваім абавязкам.

Ад хлева вясковага вернуць лычы,
Хоць бацькава сала ядуць як зазвычай
І матчыну мову гатовы лічыць
І "беднай",
І "хамскай"
І проста "мужыцкай".

Ня лезе у вушы ім даўні назоў,
Псуецца настрой ад бабуліных строяў,
Зусім ім ня трэба
Ні нашых князёў,
Ні нашых прарокаў,
Ні нашых гэрояў.

Хоць лезе у вушы ім даўні назоў,
Ніхто перад крыўдай тваёй не заплача...
Ну што тут паробіш —
У кожнай сям'і
І з сынам часамі бывае няўдача.

Ну што-ж,
Каслі нехта гатоў і чалму
Надзець,
Каб на месцы сваім утрымацца.
Адно толькі сэрца сьціскае:
Чаму,
Чаму іх так многа ў цябе,
Мая Маці?

---

*
**

Б'юць па сьпіне цапы.
Зрок засьцілае мліва...
Цярпі, народ, цярпі,
Раз ты такі цярплівы.

Твой дзеляць каравай,
Твае ламаюць жорны...
А ты, народ, трывай,
Раз ты такі пакорны.

Твае паслугачы
Падбрэхваюць ліслліва.
А ты, народ, маўчы,
Раз ты такі маўклівы.

Грызі сухі калач,
Зьбірай завалы верас...
Ня плач, народ, ня плач —
Масква сьлязам ня верыць...

**Із зборніка "Паміж зоркай і сьвечкай", выдадзенага "Бацькаўшчынай" у г. Маладэчна.**

---

## Грамадзянская малітва

*Васіль Жуковіч*

Атамны джын, ты на лоне прыроды
не забаўляйся агнём.
Сееш і сееш наўкола нягоды...
Што-ж на зямлі мы пажнём!?

Зьмілуйся Божа Магутны,
суровы,
болей жаўруковы
і мой васільковы,
мой баравы і і рабінавы край.

Шчасьце бязьмежнае ў роднай
старонцы—
хоць, і дружыць, і любіць.
З краю жывога сьляпы люты стронцый
можа пустыню зрабіць.

Атамны час, я ў трывозе
хранічнай:
ты у дзяцей нашых не забірай
любы крынічны,
грыбны і сунічны,
мой кураўліны, калінавы край!

Гоман у хатах і школах вясёлы
сёньня мя ўсюды чуваць.
Глуха-нямыя палескія сёлы
У зоне маўчаньня стаяць

Зьлітуйся, Божа, магутны, суровы,
болей Чарнобылем не пакарай
мой жаўруковы
і мой васільковы,
мой задумённы і песенны край!

*Вядзьмак Лысагорскі*

## Лука Мудзішчаў— прэзыдэнт

Наш прэзыдэнт Лука Мудзішчаў
(Даруй нам, Пушкін, вольны тон!)
Меў дужа грозныя вусішчы
І надта сіплы барытон.
Ён быў дырэктарам саўхоза —
Надойваў рэкі малака,
Даваў дзяржаве бульбу, мяса...
"Чырвоным панам" быў Лука.
Умела кіраваў? Няўмела?
Хай скажуць курыцы і гусь.
Ды думка ў галаве засела:
"Я осчаслівлю Белорусь".
І вось без дапамогі таты
(Пра тату ён не ўспамінаў.)
Лука пралез у дэпутаты,
Трыбуну спрытна асядлаў.
О, наш Лука- мастак-прамоўца!
Паслухаць — чысты Цыцэрон!
Па-беларуску-ж ані слоўца,
Ня ўмеў на мове шпарыць ён.
Хоць, праўда, у Вярхоўнай залі,
Як БНФ крытыкаваў,
Грымеў Лука: "Яны ка-а-залі!..."
Пра што казалі — не сказаў.
Падохлі сьвіньні, мруць каровы.
Чым ашчасьлівіць свой народ?
І супраць беларускай мовы
Мудзішчаў аб'явіў паход.
Хоць як падумаць — сьмех дый сорам.
З кім ваяваць Лука гатоў?
Мудзішчаву-ж ледзь-ледзь за сорак,
А МОВЕ — тысяча гадоў.
Жрэ беларускія каўбасы,
Па-беларуску-ж ні гу-гу.
Ды за тое папуасы
Яго пусьцілі-б на рагу.
Злысеў — так грыз граніт навукі,
Аж дзьве закончыў ВЭ-НЭ-У,
А як узяў уладу ў рукі,
Спыніўся конь. Ні тпру, ні ну.
Затое сябра ён у Боры,
Бо Ельцын - "старший брат родной"
І ўсе Славянскія Саборы
Ваююць за Луку сьцяной.
Курс геаграфіі асіліў
І ўсяму сьвету далажыў,
Што нарадзіўся ён у Расеі
На самай-саменькай мяжы.
Ў паклоне пазваночнік хруснуў,
І сьлёзы шчасьця пацяклі.
І стаў Лука надзіва "рускім",
Русей за Бору у Крамлі.
Хоць лысы, але ўсё-ж такі ня Ленін.
Вянец табе — САЎГАСНЫ ДВОР!
І тут лірычным адступленьнем
Аздобіць хочам мы свой твор.
Будзь ты хоць цмокам трохгаловым,.
З каронаю на галаве,
Дарэмна зьдзекуешся з МОВЫ —
Яна цябе перажыве.
Яна, цярпліўца сьвятая,
Свой ясназорны пройдзе шлях,
Цябе растопча, ня спытае —
А хто там блытаўся ў нагах?
Бо ня прывыкла МОВА плакаць,
Стварыла столькі цудаў-дзіў,
Калі, шчэ ты за вугал какаць
У мокрых штоніках хадзіў.
Давеку з намі будзе разам
Наш беларускі горад Шклоў,
Хоць можаш ты сваім указам
Шклоў перайначыць у "Стеклов".
Бо за цябе (сабе на згубу)
Галасавалі ("слава всем!")
Ня восемдзесят тры, як трубіш,
А пяцьдзесят (і толькі) сем.
Што-ж, весяліся. Стаў свой нумар.
Ды знай — прыходзіць, як вясна,
Народны беларускі гумар —
І хохачам тваім хана.
Гані людзей у свой фарватар
І разьдзімай, як Сталін, вус,
Галоўны наш русыфікатар,
Галоўны антыбеларус.
Дайшлі да кропкі мы, да "точкі".
Як кажаш ты, наш гаваркі.
Цалуй піскдявым дамам шчочкі,
Еш з запаведніка грыбкі.
Мы незалежнасьць сваю цэнім,
Сабе панкі мы і князі.
А ты ў Расею "на каленях"
Паўзі, як вуж, як смоўж, паўзі.
Тваіх "речей" зубадрабілкі
Абрыдлі. Гэта хоць "пойми"
Ня Беларусь, карову Мілку
Хоць раз уволю накармі.
Вядзьмак Вядзьмарыч Лысагорскі
Свой абяшчае прыгавор:
Чым па трыбунах зраньня гойсаць,
Абгарадзі уласны двор.

Хоць ты сіпіш, гарыш на працы,
Хоць ты адзін "умнее всех",
З цябе народ пачаў сьмяяцца.
Не забароніш гэты сьмех.

Над Беларусяй вецер сьвішча.
Пасохлі бульба і авёс.
Наш прэзыдэнт Лука Мудзішчаў
Садзіцца ў чорны "членовоз"...

## Адказ Лукі мудзішчава Лысагорскаму

**Вядзмак Лысагорскі**

"Хто канфрантацыі ня ішчэт,
Цем канструкціўный дам атвет.
Пусьць я Лука. Пусьць я Мудзішчаў,
Но я яшчо і президент.
Што нада на этапе этам?
Халяўны газ , нефць за пятак.
Нам, бедным, нішчым і разьдзетым,
Расія даст за просто так.
І зашчыціць нас ад угрозы
Капіталізма крумкачоў.
Ня страшны войны і марозы —
Есьць Жырыноўскі, ёсьць Гарбачоў.
Наш друг, канешне, і Лімонаў.
Он рускій. Значыт, старшый брат.
Не нада сьлёз, не нада стонаў!
Он рассуждает, как Сакрат.
Пусть он фашыст! Что тут такого?
Ведь на хлябах славянскіх взрос.
А еслі женственен немнога,
Я женскій разрешу вопрос!
І хваціт вам крычаць пра мову!
Ва мне вапрос так не стаіт.
Тот, кто січас доіт карову,
Пусть хоць іўрытам гаваріт.
Я эту так праблему віжу,
Всех завяраю, всем крычу:
Рускаязычных не абіжу
І ліц каўказскіх зашчышчу.
Смотры ты! Мовы захацелі!
Не выйдзет, братцы спадары!
Мы 200 лет зазря пацелі?
А вы апять — "куры", "вары"?
Я реч скажу, а не прамову.
Адзін сверхсрочнік заявіў:
"Нашто цяпер нам эта мова?
На ней Іліч не гаварыў!"
Есьць пра сімволіку бумага.
Мне КГБ наш далажыў,
Што пад этім самым флагам
Пазьняк у кайзера служыў.
Зачем, скажыце, герб Пагоня?
Какой в нейсмысл? Какой в ней толк?
Я верю: нас яшчо дагоніт
Любімый серп і малаток.
Сярпом мы мафію па месту,
Гдзе разьмясьціўся божый дар.
А малатком всех, хто не чесный,
Народный нанесём удар!
Я выпаляню волю нашу —
С Масквою Мінск навек злучыць
Штоб сынаўя всех женшчын нашых
Смаглі в Чэчніі служыць...
Пускай ваюют і мужают,
Пусьць ахраняют рубяжы.
Мне вецераны заяўляют:
"Так, мол, і Ельцыну скажы."
В каторый раз гаворым снова
І паўтараем внов і вноў,
Што на сябе мы ўзяць гатовы
Часьць сьвежых цынкавых грабоў.
В ядзінстве толька наша сіла.
Нам так Расія памагла!
Ат мовы нас асвабадзіла,
Ат каліноўскага спасла.
І не надзейцесь, экстрамісты!
Нас без Расіі проста нет.
Ваш самый чесный,
Самы чыстый
Лука Мудзішчаў — прэзідэнт."

****************************************

ДЭБЮТ

## "Маладзічок"

Шэсьць гадоў таму ў Менскім дзяржаўным педагагічным каледжы нр.1 выпушчалася група навучэнцаў, якія спрабавалі пісаць вершы і прозу. Жаданьне спасьцігнуць сакрэты літаратурнай творчасьці прывяло іх да ідэі стварыць суполку. Аб'яднаньне назвалі "Маладзічок". Першымі яго кіраўнікамі сталі Юрый Мельнікаў і Андрэй Латышэвіч, кансультантам — выкладчыца В.Раманцэвіч.

На працягу ўсіх гэтых гадоў гурткоўцы плённа працуюць: наведваюць музэі, Дом літаратара, ладзяць падарожжы. Ужо выпушчана 17 паасобнікаў альманаха, сярод іх ёсьць аўтарскія і тэматычныя.

Прапануем чытачам "Голасу Радзімы" спробы пяра "маладзічкоўцаў".

Вольга Кандрацьева. Кіраўнік суполкі "Маладзічок" МДПК Нр.1

***Вікторыя Курбека***

Прыгожых кветак сьвет вялікі,
І там растуць яны і тут,
А самы найпрыгажэйшы кут —
Ты, Беларусь, мая Радзіма.
Ты — кветка любая мая.
Ніколі край мой не загіне,
Пакуль ёсьць ты, пакуль ёсьць я.

**Вясна**

Вясною мне на досьвітку
не сьпіцца,
Імчуся сьпевам птушак
да палёў,
А сонца, як драпежніца-лісіца,
Хмар ловіць — серабрыстых
журавоў.
Зімовы пах сумотна адлятае,
І на зямлі больш радасьці,
сьвятла,
Душа падбелам залатым
адтае,
І просіць ці каханьня, ці цяпла.

***Вольга Кандрацьев***

Вядома, усё ў жыцьці праходзіць,
Нішто на сьвеце не стаіць.
Напіцца-б мне такой вадзіцы,
Каб раны ў сэрцы загаіць.

Вадзіца гэтая ў крыніцы,
Што паміж поля і лясоў,
Дзе хаты роднае акенца
Дадому кліча зноў.

***Ірына Раброва***

**Сонны бераг**

Дождж. Вецер. Хмары.
На моры гуляюць хвалі.

Сонны бераг зноў сумуе
І замкі на пяску малюе.

Зоры-вочы глядзяць на мора.
Што-ж у цябе за гора?

— Не сумуй, Кажу яму, — не трэба,
Папрасі ты шчасьця ў неба.

Зорка ўпадзе на хвалю
Для таго, каб задзейсьніць мару.

Гэта будзе не салодкі сон —
Дачакаўся проста шчасьця ён.

***Ганна Канановіч***

Тапчу каторы дзень адна
Знаёмыя сьцежкі,
Нямая толькі цішыня
Бярэ мяне ў абдымкі.

Халодны позірк цемнаты
Душу на льдзінікі студзіць.
Забраў цяпло з сабою ты,
І больш яго ня будзе.

Ня будзе тых надзей і мар,
Ня будзе больш спатканьняў.
Як летні дожджык з сініх хмар,
Прайшло наша каханьне.

Я чацу боль увесь аддам,
І больш ня ўбачаць людзі
Мяне адну сягоньня там,
Дзе заўтра нас ня будзе.

***Настасься Данільчанка***

**Табе, Хто Зараз Далёка**

Я атамы з рэчыва вылучу
І чыстае срэбра знайду,
Я радыус Арктыкі вылічу,
З пяску скандэнсую ваду.

Змагу існаваць і ў полымі,
І пры абсалютным нулі,
Адлегласьць зьмяню паміж
зорамі,
І полюсы нашай Зямлі.
Я зьнішчу закон гравітацыі
І зьнікну, нібы мэтэор,
Я думку рукамі памацаю,
Ўзьнімуся над пікамі гор.

Клянуся зраблю
немагчымае,
У думках табе я крычу,
Але ні з якой прычыны
Сказаць не магу, што хачу.

Усё для цябе таемна...
Ніколі, аднак, не чакай
Майго прызнаньня.
Дарэмна.
Калі кахаеш — кахай.

***Святлана Грыдзюшка***

Ці ведаў ты, што я цябе
кахала
Што столькі дзён адным
табой жыла,
Што пры сустрэчы вочы
апускала,
А ноччу плакала ля цёмнага
вакна!

Ці ведаў, што пашла-б я
за табою,
Куды-б ты ні паклікаў,
ні сказаў.
Я чакаю над хуткаю вадою;
Чакала ўсё. А ты — маўчаў.

Ці ведаеш ты, што я была-б
тваёю,
Калі-б ты толькі змог мяне
знайсьці,
Калі-б тады, той ночкай
залатою,
Ты не дазволіў міма мяне
прайсьці.

З любых дарог-бы я цябе
чакала,
Апошняе без слоў-бы
аддала...
Ці верыў ты, што я цябе
кахала,
Што столькі дзён адным
табой жыла!

## Кароткія весткі

**Заява Абяднанай грамадзянскай партыі.**

АГП не выключае, што чалавечая трагэдыя ў ЗША стане для беларускага рэжыму, які не аднойчы дэманстраваў адкрыты цынізм, прыкрыцьцём для ўзмацаваньня рэпрэсій супраць сваіх апанентаў пад відам "прафілактычнай барацьбы з тэрарызмам у Беларусі.

У часопісе "Полымя" (нр.12) зьмешчаны артыкул прафэсаркі Лідзіі Савік пра творчасць паэта Міхася Кавыля. Ацэнка творчасьці дадатная.

## "Бацька" да пасольства не даехаў.

Беларускі народ спачувае амэрыканцам у іх горы, а Лукашэнка да амэрыканскага пасольства не даехаў... Ён перадумаў публічна выказаць спачуваньне амэрыканцам. Чаму ? Прычыны дзьве: "бацьку" нібы не спадабалася, што супрацоўнікі пасольства палічылі здымкі групай АТН на тэрыторыі пасольства непрылічнымі ў гэтыя трагічныя дні... А другая прычына: раней за Лукашэнку пасольства наведаў канкурэнт "бацькі" Уладзімер Ганчарык. Астаўляць запісь у кнізе жалобы пасьля канкурэнта Лукашэнка бачна, палічыў ніжэй сваёй годнасьці... Так, ці ня так, але Лукашэнка, не даяжджаючы да пасольства, рэзка зьвярнуў у другі бок...

"Народная воля" Нр. 173, 2001 г.

## Сансацыя.

ЕС разрывае адносіны з Рэспублікай Беларусь?

Камісар Эўрапейскага саюзу па вонкавай палітыцы і бясьпечнасьці Хаўер Солана 11 верасьня 2001 г. заявіў, што ЕС ня зможа падтрымліваць нармальныя адносіны з Беларусьсю пасьля прайшоўшых у гэтай краіне прэзыдэнцкіх выбарау. "Мы не зьбіраемся падтрымліваць адносіны з дзяржавай, у якой не ўзважаецца свабода выбара", — адзначыў Солана на саміце Украіна-ЕС у Ялце, перадае "Reuters".

Міжнародныяназіральнікі, прысутнічаўшыя на выбарах прэзыдэнта Беларусі, заявілі пра шэраг нарушэньняў на выбарчых участках рэспублікі. 10 верасьня ЕС і ЗША выказалі свае адносіны да перавыбараў Аляксандра Лукашэнка. Праўдстаўнікі ЗША адзначылі, што лічаць гэтыя перавыбары "бязглузднымі".

Салана адзначыў таксама, што ЕС дапамагаў разьвіваць апазыцыйнаму руху Беларусі і быў натхнёны тым, што раз'яднаныя апазыцыйныя партыі выставілі адзінага кандыдата Уладзімера Ганчарыка.

Газэта "RU"

## Гэнацыд.

Упраўленьне адукацыі Менгарвыканкама паведаміла, што ў 2000/2001 навучальным годзе ў горадзе Менску функцыянуе адзінаццаць беларускамоўных школ. А расейскамоўных, у якіх маюцца беларускамоўныя класы, — 95.

А колькі русамоўных школ, у якіх няма беларускамоўных класаў, не паведамляецца. А іх напэўна болей за 11 беларускамоўных...

"Таварйш" Лукашэнка!

Хто будзе адказваць на судзе за гэнацыд беларускага народу?

А суд будзе! Будзе суд!

*
**

У кастрычніку 1999 г. Лукашэнка выступіў у расейскай Думе з доўгай прамовай. Прамова заслугоўвае архіва, із якога яна, калі прыйдзе адпаведны час, будзе выцягнута і зачытана на судзе ў якасьці сьведчаньня здрады Лукашэнкі беларускаму народу: передачы (інтэграцыя) Беларусі Расеі...

*М.К.*

*
**

"Беларускія газэты і праваабарончыя арганізацыі атрымалі па электроннай пошце лісты з прызнаньнямі супрацоўнікаў пракуратуры аб тым, што шматлікія "похищенийя" людзей у Беларусі праводзіліся па заказу прэзыдэнта.

Бязсьледнае зьнікненьне аператара Дзімітрыя Завадзкага, былога віцэ-прэм'ера Віктара Ганчара, адстаўнога моністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранка і "бізнэсмэна" Анатоля Красоўскага былі арганізованы беларускімі спецслужбамі і зьдзейсьнены так званым "эскадронам сьмерці" групай, створанай для запалохваньня людзей, якія мяшаюць Лукашэнку...

## Таленты Беларусі разьбягаюцца.

Сябра Барысаўскага БАТЭ Васіль Кутузаў пад час гульні з Італьянскім клубам "Мілан" спадабаўся кіраўніцтву "Мілана" і быў запрошаны ў гэтую каманду. Вядома, Кутузаў згадзіўся і заключыў адпаведны дагавор на пяць гадоў... І паедзе з сям'ёй..

********************************

## "За беларускую мову зьбіваюць".

Так паведамляе газэта "Рабочы" (нр 44-199).

"Менскія паліцыянты жорстка зьбілі паэта і барда Валерыя Пазьнякевіча". За што? За тое толькі, што пры пакупцы сігарэтаў абазваўся да прадаўца па-беларуску..

Гэткае вось Лукашэнкаўскае "двумоўе"!.

********************************

## Дэмаграфічны крызіс.

На пачатку 90-х гадоў Беларусь апынулася ў дэмаграфічным крызісе: ўпяршыню за пасьляваенны пэрыяд сьмяротнасьць, узравень якой дасягнуў 25%, перавысіла нараджальнасьць. Згодна з дэмаграфічным прагнозам ААН, у 2050 годзе насельніцтва Беларусі можа паменьшыцца на 2 мільёны чалавек.

********************************

## "Зайчык" — самая худая валюта.

У выніку праведзянага БелПАН штогадовага параўнальнага аналізу афіцыйных курсаў даляра ЗША да нацыянальных валюты Расеі, Украіны, Беларусі і іншых. У пяцёрцы краін з найбольш абясцэнянай валютай першае мейсца займае Беларусь: 15.090.00 рублёў за даляр, тады, як скажам, Латвія — ўсяго толькі 124 рублі за даляр.

Лукашэнкаўскі "зайчык" "допригался"...

********************************

**Менск.** Тут супрацоўнікі праваахоўных органаў арыштавалі ўвесь тыраж апазыцыйнай газэты "Наша свабода", прысьвечанай выбарам прэзыдэнта, якія адбыліся 9 верасьня 2001 году. "Новое русское слово"

********************************

Лукашэнка адабраў у Саюза пісьменьнікаў дом, таму што ў доме "праводзіліся антыдзяржаўныя імпрэзы"...

********************************

Рэжысёр М.Пташук "зварганіў" фільм "У жніўні 44-га". Фільм антыбеларускі. І таму, мабыць, першы паглядзеў яго Лукашэнка.

********************************

Ніжняя палата парламента абсалютнай большасьцю галасоў адобрыла ўвядзеньне адзінай грашовай сыстэмы і фарміраваньне адзінага эмісыйнага цэнтру.

Галасаваньне было паіменным, а таму толькі тры чалавекі прагаласавалі супроць, падставіўшы свае галовы пад абух Лукашэнкі.

Слава вам, гэроі!

********************************

## Сьведчаньне.

менчанкі, вэтэрана працы Інэсы Касьцюк:.

"Еду неяк у тралейбусе, ды кіроўца (рэдкі факт) аб'яўляе прыпынкі і, навогул, размаўляе з пасажырамі на беларускай мове. Кажу суседцы, вясковага выгляду і сталага ўзросту жанчыне: "Як прыемна чуць беларускую мову, якая яна прыгожая". І чую адказ: " Я не люблю беларускую мову, а мае дзеці і ўнукі яе наагул ненавідзяць". А скуль вы— пытаюся, напэўна з Расеі? "Не, — адказвае яна, — з беларускай вёскі". Вось да чаго давялі народ.

І мае рацыю Сакрат Яновіч, калі піша, што зараз становішча горшае, чым было ў БССР.

Мае дзеці аддалі ўнукаў у беларускую гімназію. Я была вельмі задаволеная. Вучаць там беларускай мовы добра. Але-ж настаўнікі і дырэктар гімназіі размаўляюць паміж сабой на рускай мове, сход і ўрачыстасьці праходзяць па-расейску, дзеткі вітаюць настаўнікаў і выступаюць на вечарынах на рускай мове. Вось вам і беларуская гімназія!

# Рукі прэч ад Васіля Быкава

**Мы ўдзельнікі Вялікай Айчыннай Вайны, абураныя нечуваным паклёпам на народнага пісьменьніка Васіля Быкава, які прагучаў 17 сакавіка на беларускім тэлебачаньні ў аўтарскай праграме Юрыя Азаронка "Тайныя спружыны палітыкі".**

Азаронак зьняважыў Васіля Быкава. Гнеў яго ў першую чаргу выклікае "непрыкрытая праўда пра вайну" 1941-1945 гадоў, адлюстроўваньне гэтай вайны, партызанскага руху на Беларусі ў творах Васіля Быкава і Сьвятланы Алексеевіч "без фальшу".

Азаронак ганьбіць Васіля Быкава і за тое, што ён у цяжкі для нашай краіны час стаў побач з тымі, хто выступае за свабоду і незалежнасьць нашай Бацькаўшчыны. "Васіль Быкаў, — піша Генадзь Бураўкін, — не зламаўся, не пахіснуўся ў сваёй веры, ня кінуў камень у свой народ".

Рукі прэч, паклёпнік, ад нашай нацыянальнай сьвятыні, ад пісьменьніка, чые творы даюць уратаваньне ўсім людзям планэты, і ў першую чаргу беларусам, заклікаюць да любові ды міласэрнасьці. Нам сорамна за тых, хто хоча абразіць лепшага сына нашай Айчыны.

Азаронак у сваім шаленстве нічога новага не сказаў. Выконвае змову, тых, хто хоча захаваць усталяваны на Беларусі таталітарны паліцэйскі рэжым. Ён агучыў былых савецкіх гэнералаў, палкоўнікаў, партработнікаў, журналістаў, якія абінавачваюць Васіля Быкава ў недацэнцы вялікай Перамогі, ў "непатрэбным акцэнтаваньні на трагічным".

Былы гэнерал, старшыня Партыі беларускага патрыятычнага руху Анатоль Баранкевіч, папракае Васіля Быкава за "дэгераізацыю", за тое , што ён "адмовіўся ад сваіх гэрояў", на патрыятызме якіх выхоўвалася "цэлае пакаленьне". Гэта хлусьня, помста Васілю Быкаву за праўду.

Мы, ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, заклікаем усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь узьняць свой гнеўны голас у абарону вялікага пісьменьніка і сына нашай шматпакутнай Радзімы, сумленьне нацыі, выказаць спачуваньне выгнаньніку. Лічым сваім чалавечым і грамадзянскім абавязкам унесьці прапанову вылучыць народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава на прысваеньне лаўрэта Нобалеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Ён заслугоўвае высокага званьня.

*Мікола Мельнікаў.*
*Леанід Закурдаеў,*
удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны.

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

## Да нашых чытачоў:

Дарагія суродзічы!
Як Вам, напэўна, добра ведама, часопіс **"Беларуская Думка"** ня мае ніякіх крыніцаў, што забясьпечылі-б ягоны рэгулярны выхад. Адзінаю такою крыніцаю зьяўляюцца Вашы дабраахвотныя ахвяры.
Дык не скупецеся, дарагія суродзічы, прышлеце неадкладна свае шчырыя ахвяры, каб чарговы нумар часопіса мог выйсьці з друку своечасова.

**Наперад шчыра дзякуем!**

Ахвяры шлеце на адрас: **"Belarusian Thought"**
**PO Box #26**
**South River, NJ 08882**

## Беларускія таленты:



Беларуская пяціборка Жанна ШУБЯНОК (на здымку) — у ліку мацнейшых у сьвеце.
БелТА




**13-гадовы віцяблян канькабежац Віталь Міхайлаў (на здымку) зьдзівіў Галандыю.**

У турніры "маладых канькабежцаў "Вікінг рэйс", які прайшоў там, Віталь на розных дыстанцыях заваяваў пяць узнагарод рознай вартасьці. Сярод іх адна залатая, тры сярэбраныя і адна бронзавая.




Арцём Кохан, выхаванец Лужасянскай гімназіі, што ў Віцебскім раёне, адзін з самых "абяцаючых" матэматычных талентаў краіны. У міжнародных алімпіядах па матэматыцы ў Румыніі, на Тайване ён аказаўся ў ліку пераможцаў.

## Конкурс




**На конкурсе стыпэндый для беларускіх студэнтаў і асьпірантаў прымалі ўдзел 30 студэнтаў і асьпірантаў, больш як 20 навучальных установ Беларусі, якія прадстаўлялі на суд журы свае працы па вывучэньню праблем бежанцаў і масавых перамяшчэньняў насельніцтва. Дзевяць зь іх сталі пераможцамі.**

**На здымку лаўрэт конкурсу Вераніка БРЫЛЁВА, студэнтка Гомельскага Ўнівэрсітэта імя Францішка Скарыны.**

************************************************************

## Хроніка

### Бэлер-Менск, Глен Спэй, Ню Ёрк

У суботу 2-га ліпеня адкрыўся летні сэзон у Беларускім Рэлігіна-Адпачынковым Цэнтры Бэлер-Менск. Падчас сэзону адбылася 37-я спартовая сустрэча беларуска-амэрыканскай моладзі. Сэзон закончыўся 3-га верасьня ў дзень Сьвята Працы. 15 верасьня адбылася апошняя імпрэза ў Бэлер-Менску традыцыйныя "Дажынкі". Мэнаджэрам быў Язэп Крывенко.

### Рычмонд Гіл, Ню Ёрк

У нядзелю 28 кастрычніка царква сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Ню Ёрк, сьвяткавала 29-я ўгодкі высьвячэньня і першай Божай Службы ў новазбудаванай царкве. Урачыстую Сьвятую Літургію і Малебен адслужыў а. ігумен Грэгоры О'Кіф у саслужэньні а. дзіякана Міхаіла. Пасьля, ў прыцаркоўнай залі, адбыўся супольны абед, на якім рэгент хору сп. Валянцін Дэменшчык са спадарыняй Тацянай правялі мастацкую частку сьваткаваньня.

## Сайт Рывэр, Ню Джэрзі

**Беларускі Фэстываль.**

У суботу 9-га чэрвеня ў Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры і ў прыцаркоўным парку адбыўся 3-ці з чаргі мнагалюдны Беларускі Фэстываль. Сталы былі разьмешчаныя, як у залі, так і ў парку пад цяністымі дрэвамі. У парку дыміліся пікніковыя печы, а ў залі можна было купіць сувэніры, або выграць прыгожыя і вартасныя латарэйныя фанты. У парку адбыўся канцэрт беларускіх песьняў. Выступалі Валя Пархоменка, Алесь і іх таленавітая дачушка Вольга. Сп. Алекс Мартыновіч прыгожа прапяяў некалькі песьняў. Госьць з Беларусі, ведамы беларускі фатограф, сп. Анатоль Кляшчук, зацікавіў сваёю выстаўкаю фотаздымкаў з Чарнобыльскай зоны. Належыцца шчырая падзяка ўсім жанчынам і мужчынам, асабліва галоўнай арганізатарцы Соні Арцюшэнка, якія прымалі актыўны ўдзел пры арганізацыі "Фэстывалю— 2001".

---

У нядзелю 10 чэрвеня Беларуская Праваслаўная Царква імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай сьвяткавала дзень патронкі. Урачыстую Сьвятую Літургію адслужыў а. Мячыслаў, хорам кіравала рэгентша Іна Яўтуховіч. Пасьля Богаслужбы ў царкве адбыўся крэсны ход са аьпяваньнем малебена.

---

У нядзелю 8-га ліпеня адбылося высьвячэньня царкоўнага купала ў царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай. Дачка, Гэлена Касоўская і сын Жорж Лапіцкі, ў памяць сваіх бацькоў, сьв. п. а. протапрасьвіцера Мікалая Лапіцкага і матушкі Валянціны, ахвяравалі 10 000.00 дал. на закуп адпаведных іконаў.

---

22 ліпеня, ў прыцаркоўным парку, адбыўся канцэрт барда з Беларусі (Горадня) сп. Віктара Шалкевіча. Прыемна было паслухаць бардаўскія песьні ў ягоным выкананьні, многія з якіх адлюстроўваюць цяперашняе жыцьцё на Беларусі.

---

У суботу 8-га верасьня, ў прыцаркоўным парку, адбыўся пікнік, зладжаны для сяброў Беларуска-Амэрыканскага Грамадзкага Цэнтру.

---

У нядзелю 30 верасьня, адразу пасьля Божае Служба ў царкве, ў залі Грамадзкага Цэнтру, адбыўся супольны абед дзеля ўшанаваньня 15-ці гадовага юбілею рукапалажэньня і пастырства а. Мячыслава Брынкевіча ў царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай. З прамовамі выступілі: старшыня Парахвіяльнага Камітэту Робэрт Цупрык у ангельскай мове, сп. Віталі Цярпіцкі ў беларускай.

---

7-га кастрычніка Беларуска-Грамадзкі Цэнтр зладзіў для сваіх сяброў паездку на акіянскую рыбную лоўлю. Прыгожая ціхая пагода, малыя хвалі і добры ўлоў рыбы зрабілі для ўсіх удзельнікаў (35 асобаў) вялікую прыемнасьць.

---

У нядзелю 14 кастрычніка царква імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай сьвяткавала сваё другое храмавое сьвята — Пакроў Прэсьвятое Багародзіцы. Пасьля сьв. Літургіі і малебена ў царкве ў прыцаркоўным парку адбыўся парахвіяльны пікнік.

---

У нядзелю 2-га сьнежня ў царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай, пасьля Сьвятое Літургіі, была адслужана паніхіда па паўшых слуцкіх паўстанцах і па ўсіх паўшых у змаганьні за вольную і незалежную Беларусь. Сцяганосцамі былі: Уладзімер Літаровіч, Уладзімер Бычкоўскі і Юрка Арцюшэнка.

У панядзелак 31-га сьнежня ў прыгожа ўдэкараванай залі Грамадзкага Цэнтру адбылося многалюднае спатканьня новага 2002 году. Гасьцей вітала спадарыня Валя Пархоменка. Пры багата застаўленых сталах трыо: Валя, Алесь і іх дачушка Волечка весялілі гасьцей аж да раніцы.

---

6-га студзеня, пасьля вячэрняе калядняе Божае Службы, ў залі Грамадзкага Цэнтру адбылася традыцыйная супольная Куцьця. Прысутнічала больш за сотню парахвіян і гасьцей.

---

У суботу 12 студзеня адбылося традыцыйнае сьвяткаваньне старога стылю новага году, якое ладзіў для сваіх сяброў і сымпатыкаў Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр. Весяліў гасьцей сп. Аляксандар Балотнік, дзе прыгожа выканаў слаўную амэрыканскую песьню, Фрэнка Сынатры —"Strangers in the night".

---

У нядзелю 13-га студзеня, пасьля Божае Службы ў царкве, у Грамадзкім Цэнтры была зладжана "Ялінка" для дзяцей на якую пад гукі пажарных сырэнаў прыехаў "Дзед Мароз" і раздаў дзецям падарункі.

---

У нядзелю 24-га лютага ў залі Грамадзкага Цэнтру адбыўся Агульны Сход парахвіян царквы імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай. На старшыню сходу быў выбраны сп. Робэрт Цупрык, на скратара сп. Міхась Сенька. Пасьля здачы справаздачаў і дыскусыяў над імі, быў прыняты буджэт на 2002 год у суме 73, 800.00 дал.

---

У суботу 16 сакавіка ў залі Грамадзкага цэнтру быў зладжаны традыцыйны передвялікапосны абед — бліны з верашчакай і ў іншых прыгатаўленьнях, які прайшоў з вялікім посьпехам. Ізноў збаўляў сваёй музыкай і сьпевам сп.Аляксандар Балотнік.

---

**Сьвяткаваньне 84-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі** — ў суботу 23-га сакавіка, а 10 гадзіне раніцы, перад будынкам гарадзкога музэя, быў падняты беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Пасьля ў, у залі Грамадзкага Цэнтру, адбылася пачостка з удзелам радных горада і прадстаўнікоў беларускага грамадзтва.

У нядзелю 24-га сакавіка, пасьля Сьвятое Літургіі ў царкве, быў адслужаны малебен за Беларускі Народ. У залі Грамадзкага Цэнтру адбылася ўрачыстая Акадэмія прысьвечаная 84-м угодкам Акту 25-га Сакавіка 1918 году. Акадэмію адчыніў старшыня Беларускага Кангрaсовага Камітэту Амэрыкі — сп. Робэрт Цупрык. Прысутнымі быў адсьпяваны амэрыканскі нацыянальны гімн. Даклад у ангельскай мове прачтаў сп. Р.Цупрык, а ў беларускай сп. Міхась Сенька. Сп. Дэвід Слікер — старшыня кансыльмэнскае рады прачытаў праклямацыю падпісанаю мэрам горада, ў якой "дзень 25 Сакавіка" быў праклямаваны "Беларускім Днём" у Саўт Рывэры. Наступна сп. М.Сенька прачытаў прысланыя прывітаньні ад розных беларускіх арганізацыяў у Амэрыцы і з іншых краінаў. У мастацкай частцы сп-ня Віла Леўчук прадэклямавала свой верш прысьвечаны Акту 25 Сакавіка. На заканчэньне сп. Р.Цупрык падзякаваў за прысутнасьць і быў аддсьпяваны беларускі нацыянальны гімн — "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Закончылася Акадэмія невялікім пачастункам.

---

У нядзелю 19 траўня айцец протапрэсьвіцер **Стаўрос Роўсос** адслужыў першую Сьвятую Літургію і малебен у гонар традыцыйны — "Дзень Маці". Ён зьяўляецца новым настаўцелям Беларускай праваслаўнай Царквы імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэр Н.Дж.

---

**Рычмонд Гіл, Ню Ёрк:**

У нядзелю 9-га сьнежня 2001 г. ў царкве імя сьв. Кірылы Тураўскага, была адслужана ўрачыстая Сьвятая Літургія ўладыкам Мікалаем у саслужэньні а. Грыгоры О'Кіфа і дыякана Міхаіла. Прынагодная пропаведзь ўладыкі Мікалая была глыбока ўспрынята парахвіянамі і гасьцямі. Пасьля, у прыцаркоўнай залі, адбыўся супольны абед і мастацкая частка якую праўеў рэгэнт царкоўнага хору сп. Валянцін Дамянчык і сп-ня Тацьяна.

*Кастусь Акула*

# ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ



Летась 1994 г. ў хмарны верасьнёўскі дзень стаяў я перад гэтым трухлявым будынкам, які бачыце на здымцы. Трушчоба, гнілы дах, быццам цябе запрашала: піхні, паваліося! Гэта-ж драўляныя руіны калішняй школы ў Порплішчах — мястэчку, што на шляху з Докшыцаў у Глыбокае ляжыць з паўночнага боку чыгункі з Полацку ў Маладэчна.

Апошні раз быў я тут вясной 1943 году. За паўстагодзьдзя ў вольным сьвеце гэты школьны будынак нярэдка зьяўляўся ў маім уяўленьні як нейкая важная веха ў жыцьці. Школа, поўная дзіцячай гамонкі, родная мова, юнацтва, ўскалосьсе беларускасьці ў школьніцтве — натхненьне буйнага росту.

Пасьля шасьцімесячных настаўніцкіх курсаў у Глыбокім, з правам навучаньня ў пачатковых школах, юныя настаўнікі й настаўніцы рупліва ўзяліся за працу. Між імі захавалася й колькі старэйшых, каторых "на крэсах" пакінула некалі "моцарствова Польска". Адылі галоўнай сілай былі мы — беларускія патрыёты, сьвядомыя таго, што здолеем нашым дзеткам перадаць-пераліць любоў да нашай шматпакутнай бацькаўшчыны, якая тады навакол гарэла й гінула пад ударам двух монстраў-тытанаў. У лясных раёнах "народныя мсьціўцы" палілі школы й мардавалі настаўнікаў. Каля Порплішчаў іх і заваду ня было. Калішняму саюзьніку Сталіна, "вялікай Германіі", не ўдалося яшчэ зрабіць Маскве той зьнішчальны "капут" і ейны "дранг нах Остэн" заграс недзе на ўсходзе. Амаль палова Беларусі цярпела пад ваеннай акупацыяй фашыстоўскай улады. Заходняя часьць, што называлася генэралкамісарыятам Вайсрутэніі, перадала пачатковыя школы ў беларускія рукі. Ніхто не загадваў нам акупантаў ці ведамага "фюрэра" хваліць. За няпоўныя тры гады пачатковыя школы далі вучням ня толькі асноўныя праграмныя веды, але й сьведамасьць беларускасьці.

Сьціплая ўзнагарода за настаўніцкую працу — некалькі дзясяткаў акупацыйных марак і карыстаньне кавалкам зямлі. Садзі гародніну, сей што хочаш, жыві! Ніяк не разгонішся. Прывілеяў ніякіх. Пяць нас працавала ў Порпліскай сямігодцы. Вера Ярашэвіч, адна зь пяці, ейны сын і дзьве дачкі жывуць цяпер у ваколіцы Ню Ёрку й сумежнага Ню Джэрзі. У Порплішчах я заўважыў, што дом Ярашэвічаў, тут-жа цераз вуліцу ад той старой школы, захаваўся такім, як некалі быў. Я ў яго не заходзіў і не пытаўся, хто там цяпер жыве.

Праца настаўніка, калі ты яшчэ сямнаццаткі не дажыў, дала ў тыя часы поўную самастойнасьць, грунт пад нагамі — незалежнасьць ад бацькі. Навакол — нікчэмная зьнішчальная вайна, ўсяго недахоп. Ды ў раёнах, дзе не гаспадарылі "народныя мсьціўцы", якіх тут часьцей называлі бальшавіцкімі ляснымі бандытамі, жылося, як казалі сяляне, лепш, чымся пад бальшавіцкім прыгонам у мірны час. Меншыя падаткі, свае людзі ў павеце й вобласьці, ніхто цябе не цягнуў у калгасны прыгон. І беларускамоўныя школы мелі падтрымку народу, настаўнікі былі аб'ектам пашаны ў сваіх і кішэняй нянавісьці з боку яўных і старых ворагаў.

Нарадзілася пытаньне: а што-ж далей, куды і якім шляхам ісьці? Калішнія саюзьнікі, цяпер у змаганьні ня толькі за нашыя землі, нам жыць не дадуць, незалежнай рэспублікі Беларусі

ня будзе. Абое рабое. Трэба нейкага іншага шляху шукаць, каб як-небудзь на захад... Наперадзе чалавека Вільня й далёкія й цяжкія ваенныя дарогі. Удалося выкінуць двух лютых дыктатараў. Дзякую Богу за помач і апеку! Давялося наапошку памагаць выкідаць фашыстоўскі "гэрэнфольк" — калішняга саюзьніка Сталіна, — "вялікую Германію" зь Італіі.

Гадамі назойліва дакучала цяжарнае пытаньне: а што было-б з табой, калі-б ня тая школа й настаўніцтва, калі-б ня Вільня й шлях на захад? Што здарылася з моладзяй твайго ўзросту, каторая сустракала "вызвольнікаў"? Бальшавіцкая мятла гэтых юнакоў-рэкрутаў, без належнай падрыхтоўкі, пагнала на "даёш Берлін!" У сваёй вёсцы сустрэў я двух ваенных вэтэранаў калекаў. Яны — пакалечаныя недабіткі з таго нашага "страчанага пакаленьня".

************************************************************************




ПАГОНЯ

**Старадзўняй Крывіцкай Пагоні не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць!**

*Максім Багдановіч*

## БАРОНІМ НАШУ СЬВЯТУЮ ПАГОНЮ

Баронім старажытны наш сімвал
Ад нападаў варожых нам сіл,
Бо ён нас у нядолі падтрымваў
Кожны з нас яго ў сэрцы насіў.

Разам з намі жыла ты, Пагоня,
У палоне, у турмах была, —
Хай лятуць нясупынныя коні,
Каб Пагоня наперад вяла!

Каб цябе чужакі не закрылі
І ня сьцерлі з запыленых кніг,
Не дазволім, пакуль мы жывыя,
Апаганіваць продкаў сваіх

Хай праменіцца сьцяг у аблоках
У паветры хай шоўкам шуршыць,
А Пагоня высока, высока
Хай нас вучыць змагацца і жыць.

Каб цябе не закрылі чужыя
Сімвалы з малатком і сярпом,
Мы грудзьмі цябе моцна прыкрыем
І ад іх, і ад сьцягаў з арлом!

Дык красуй нам навечна, Пагоня,
І лунайце ў паветры сьцягі
Хай наперад лятуць тыя коні!
Не патрэбны нам сімвал другі!

**Надзея Дземідовіч.** *ліпень. 1944. Менск-Калодзішчы*

*******************************************

*Леанід Пранчак*

## Беларусь Мая Радзіма

Цік-так,
Цік-так —
Ходзікі.
Мне чатыры годзікі.
Чуб ільняны —
Сьветла русы.
Тата з мамай—
Беларусы.

Я — дзяўчынка беларуска
З васілковымі вачыма.
Хоць малая,
Але знаю:
Беларусь —
Мая Радзіма.



С.П. Пятро Нядзьвецкі

**Сьветлай памяці Пятро Нядзьвецкі**
нарадзіўся ў 1918 г. ў вёсцы Вераб'і, каля Будслава. У яго была артыстычная душа: маляваў,пісаў на словы сваіх вершаў і вершаў іншых беларускіх паэтаў — музыку. 3 маладых гадоў быў зьвязаны з беларускім жыцьцём. Быў сябрам Саюзу Беларускай Моладзі. 3 хвілінай утварэньня Беларускае Краёвае Абароны напісаў словы і музыку ўсім вядомы песьню-марш "Ідуць жаўнеры беларусы". У Нямеччыне жыў у беларускім лягеры Ватэнштэт. Ніводная ўрачстасьць не адбылася без ягонага ўдзелу. Быў кіраўніком мужчынскага хору "Рэвэлерсаў". 3 прыездам у Амэрыку, жыў у Саўт Рывэры, а пасьля ў Іст Брансвіку. Працаваў тэхнічным лабарантам ў Сквібаўскай фармацэўтычнай фабрыцы. Ягоная дачушка Тамма памела ў 1961 годзе, а жонка Ілька ў 1984 г. У 1997 годзе пераехаў жыць да сына Эдуарда ў горад Эшвіль, Паўночная Каралайна і памёр там 2 верасьня 2000 году.

**Вечная памяць — Пятро Звонны!**
(Гэта быўягоны псэўдонім)

---



С.П. Антон Філістовіч

**С. П. Антон Філістовіч** нарадзіўся 25 скавіка 1925 году на Віленшчыне. Быў сябрам Беларускай Царквы імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Належаў да Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. Быў шчырым Беларусам, заўсёды падтрымоўваў беларускія справы. Памёр 4 сьнежня 2001 году і пахаваны на беларускіх могілках у Саўт Рывэры. Аставіў у суме жонку Дароту і сыноў — Міхася, Івана і Анатоля.

**Вечная памяць — Антон!**

---



С.П. Леў Высоцкі

**С.П. Леў Высоцкі** нарадзіўся 9 красавіка 1913 г. у Лібаве, Латвія. Ягоны бацька быў чыноўнікам на Лібава-Роменскай чыгуначнай дарозе. 3 распадам Расеі бацькі вярнуліся ў Стоўпцы адкуль была родам яго маці. Бацька быў родам з суседняга мястэчка Новы Сьвержань. Скончыў сярэднюю школу ў Ломжы. У польскім войску быў марскім кадэтам і на ваеннм вятружніку наведаў амаль усе парты Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі. Пасьля вайсковае службы працаваў у страховай агенцыі, а падчас вайны ў Беларускім Банку ў Стоўпцах. У Амэрыку прыехаў у 1949 годзе і пасяліўся ў Саўт Рывэры. Быў актыўным у беларускім грамадзкім і рэлігіным жыцьці. Быў скарбнікам Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі. У 1976 г. памерла ягоная жонка Палагея. Сп. Леў Высоцкі памёр 31 сакавіка 2002 году і пахаваны на беларускіх могілках у Саўт Рывэры разам з магіламі сваіх бацькоў іжонкі.

**Вечная памяць — Леў!**



STATE OF NEW JERSEY
EXECUTIVE DEPARTMENT

# Proclamation

*WHEREAS, New Jersey takes great pride in its cultural diversity and the Belarusian community plays an important part of that diversity; and*

*WHEREAS, Americans of Belarusian descent will celebrate the 84th Anniversary of the Declaration of Independence of the Belarusian Democratic Republic on March 25, 2002; and*

*WHEREAS, Belarusians in New Jersey will celebrate that anniversary with prayers, rallies and other activities in an effort to keep the spirit of freedom for Belarus alive; and*

*WHEREAS, New Jerseyans of Belarusian heritage have made, and continue to make, immeasurable contributions to the social, cultural and economic life of the Garden State;*

*NOW, THEREFORE, I, JAMES E. McGREEVEY, Governor of the State of New Jersey, do hereby proclaim*

*MARCH 25, 2002*

*as*

*BELARUSIAN INDEPENDENCE DAY*

*in New Jersey.*



*GIVEN, under my hand and the Great Seal of the State of New Jersey, this twenty-first day of March in the year of Our Lord two thousand two and of the Independence of the United States, the two hundred and twenty-sixth.*

James E. McGreevey

*GOVERNOR*

*BY THE GOVERNOR:*

*REGENA L. THOMAS,*
*SECRETARY OF STATE*




# Proclamation

WHEREAS, on March 25,1918, the Belarusian Democratic Republic was proclaimed; and

WHEREAS, Belarus has courageously struggled for independence for more than 50 years; and

WHEREAS, Belarusian Americans have played a significant part in the progress of Illinois and have proudly shared their culture, heritage, and talents with our state; and

WHEREAS, events are being held in the Belarusian community to commemorate the 84th anniversary of Belarusian independence;

THEREFORE, I, George H. Ryan, Governor of the State of Illinois, proclaim March 25, 2002, as BELARUSIAN INDEPENDENCE DAY in Illinois.

**In Witness Whereof,** *I have hereunto set my hand and caused the Great Seal of the State of Illinois to be affixed.*

*Done at the Capitol, in the City of Springfield, this* FIRST *day of* FEBRUARY, *in the Year of Our Lord two thousand and* TWO *and of the State of Illinois the one hundred and* EIGHTY FOURTH

Jesse White
SECRETARY OF STATE

George H Ryan
GOVERNOR

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

*Шаноўныя суайчыннікі!*

25 сакавіка мы будзем святкаваць 84-я ўгодкі абвяшчэння Беларус. Народнай Рэспублікі.

Гэтая падзея адкрыла нашай краіне шлях у сям'ю вольных і самастойн дзяржаў свету, дала беларусам магчымасць самастойна будаваць сваё жыц.. грунтуючыся на прынцыпах дэмакратыі і нацыянальнай незалежнасці.

Менавіта акт 25 сакавіка 1918 года аб абвяшчэнні незалежнай Беларусі ста.. ўзорам пры абвяшчэнні незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе, нацыянальн сімвалы Беларускай Народнай Рэспублікі – герб "Пагоня" і бел-чырвона-бе.. сцяг — былі зацверджаныя дзяржаўнымі сімваламі нашай Рэспублікі Белару..

Але для пабудовы дэмакратычнага грамадства недастаткова перайсці .. дэмакратычныя механізмы кіравання – трэба навучыцца правільна карыстац.. гэтымі механізмамі. У іншым выпадку з'яўляецца небяспека прыходу да ўлад папулісцкіх сілаў, якія, маніпулюючы грамадскай свядомасцю, выкарыстоўв.. юць гэтую ўладу ў асабістых амбітных і карыслівых мэтах. Менавіта ў так.. сітуацыі знаходзіцца цяпер нашае грамадства.

За апошнія восем гадоў пасля рэстаўрацыі ў Беларусі недэмакратычна.. рэжыму наша краіна апынулася ў ізаляцыі ад крыніц інвестыцый і сучасн.. тэхналогій. Бяспынныя інфляцыя і рост цэнаў вядуць да жабрацкага ста.. большасці насельніцтва, агульная колькасць якога ў краіне няўхільна змянш.. ецца.

Знішчэнню падвяргаецца і духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе планамерн наступ на беларускую мову і культуру.

Прадметам гандлю робіцца самае дарагое і каштоўнае – дзяржаўнасці незалежнасць краіны.

Аднак незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшня.. пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны н.. можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб органаў, нават праз рэферэндум. Гэта было абвешчана на Усебеларуск.. з'ездзе за незалежнасць 29 ліпеня 2000 г., які прыняў Акт незалежнасці Белару..

Шляхам Беларусі ёсць шлях, якім ідуць дзесяткі краін Еўропы і свету, ш.. дасягнулі высокага ўзроўню развіцця і дабрабыту насельніцтва. Гэта шля.. дэмакратычных пераўтварэнняў, максімальна адаптаваных да ўмоваў Белару.. арганічна злучаных з яе нацыянальнымі інтарэсамі.

Ніхто не пабудуе ў нашай краіне нармальныя, годныя ўмовы жыцця лепш .. нас саміх.

***Віншуем усіх грамадзян Беларусі са святам беларускага народа – Днём Волі заклікаем усіх прыйсці 24 сакавіка а 12-й гадзіне ў сквер Янкі Купалы і ўскласці кветкі да помніка Песняра. Даведкі па тэл.: 284-50-12 (БНФ).***

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*Нацыянальны арганізацыйны камітэ..*
*па святкаванні Дня Во..*

**Ліста ахвярадаўцаў на "Беларускую Думку"**

Беларуска-Амэр. Цэнтр (С.Р.)..$200
Уладзімер Мандзік....................$50
Кастусь Акула..............................$40
Др. М.Смаршчок..........................$30
Юзэфа Найдзюк............................$30
І.Завістовіч...................................$25
Грыгоры Арцюшэнка..................$20
Жана Маласэвіч...........................$20

Лёля Касоўская..........................$20
Эленора Пітушка........................$10
Поля Клінцэвіч...........................$10
Уладзімер Пелеса......................$10
Міхаліна Казьлякоўская.........$10
Васіль Шчэцька..........................$10
Кастусь Верабей.........................$10
Васіль Дэмянчык........................$10
Уладзімер Валатковіч................$5

Можа каго ня ўспомнілі — прабачце.
Напішэце і мы падамо ў наступным нумары.

**Усім ахвярадаўцам — шчырае дзякуй!**

актыўна спрычыніцца да стварэньня сапраўды моцнай і ласкавай да сваіх сыноў, дзе б яны ні жылі, Беларускай дзяржавы, якая зьдзейсьніць прарочы запавет вялікага Купала і зойме "свой пачэсны пасад між народамі". Мы, выхавацелі, і надалей будзем імкнуцца выхоўваць сапраўдных грамадзянаў сваёй Бацькаўшчыны, якія змалку і да скону будуць шанаваць сваю нацыянальную годнасьць, ведаць і любіць родную гісторыю, мову і культуру. Верым, што такія людзі захаваюць у сваіх сэрцах удзячнасьць і да тых, хто іх падтрымаў на пачатку жыцьцёвай дарогі. Карыстаючыся нагодай, хочам таксама сказаць шчырае слова ўдзячнасьці заслужанаму на эміграцыі чалавеку, славутаму доктару Мацьвею Рэпкаву Смаршчаку, вядомаму і сваёй дабрачыннай дзейнасьцю, за выдадзеную асобнай кнігай казку для дзяцей "Музыка і чэрці", якая трапіла і ў наш садок, а таксама прадстаўніцы апошняй эміграцыйнай хвалі Жане Малашэвіч за раней дасланыя ёю з Амерыкі ў наш садок падарункі.

Дарагія суродзічы, - захавальнікі і спрыяльнікі беларушчыны! Мы, выхавацелі і нашы маленькія гадаванцы будзем вельмі рады сустрэць Вас і хораша прывітаць у нашым садку.

**Ласкава запрашаем!**

**Ласкава запрашаем!**

**Ад імя ўсіх**

- загадчыца садка №314 - **Слясарчык Раіса Іосіфаўна**

- прадстаўніцы Бацькоўскага камітэта:
  - **Вайцэховіч Марына**
  - **Вячорка Арына**

**І дзеткі:** НАЗАР Мятліцкі
DAMIНIKA Мятліцкая
ADЭЛЯ Вайцэховіч
АDЭЛЯ Вельская
ТАМАШ Сидарович

"Голас Радзімы" — 18 чэрвеня 2002 г. Нр. 25 (2781)



# СЮРПРЫЗ З САЎТ-РЫВЕРА

***Гэты дзень у дзіцячым садзіку № 314 горада Мінска быў сапраўды святочным. Углядзельнай зале сабраліся выхаванцы садзіка і іх бацькі, каб паглядзець спектакль па матывах казкі "Зайкава хатка", падрыхтаваны дзецьмі адной з груп.***

Юныя артысты вельмі стараліся і неаднаразова выклікалі апладысменты. А на заканчэнне спектакля загадчыца Раіса Слясарчык паведаміла, што ў адрас садзіка з Беларуска-Амерыканскага грамадскага цэнтра ў Саўт-Рыверы ад спадара Жоржа Навумчыка прыйшла пасылка. Цацкі, алоўкі, нататнікі, разнастайныя прысмакі з вялікай скрыні ўмомант апынуліся ў руках дзяцей. І хоць не абдзелены дзеці ўвагай бацькоў і выхавальніц дзіцячага садзіка, але ж заўсёды прыемна атрымаць падарунак.

На шчыры ўчынак спадара Ж.Навумчыка адгукнуўся бацькоўскі камітэт, які прасіў праз газету "Голас Радзімы" перадаць наступнае: "Выхаванцы беларускіх груп мінскага садзіка № 314 шчыра дзякуюць Вам за прыемную неспадзяванку. Ваша пасылка стала цудоўным падарункам на канец навучальнага года. Малеча яшчэ не ўмее пісаць, таму ласкава просіць Вас у госці-адведкі, каб вымавіць Вам: "Вялікі дзякуй!" Падпісалі ліст Мар'я Мятліцкая і яшчэ шэсць асоб з бацькоўскага камітэта.

НА ЗДЫМКАХ: дзеці рады падарункам; выступаюць юныя артысты.

Тэкст і фота Яўгена КАЗЮЛІ.

[redacted] Цацкі ахвяравала сп-ня Соня Арцюшэнка.